# ПОЛАЦАК

Выданьне беларускага культурна-
асьветніцкага цэнтру
Кліўленд
ЗША




№9 (29), 1993



Уладзіслаў Галубок. Мастак Яўген Ціхановіч

*Аб складаным лёсе Уладзіслава Галубка чытайце на бач. 29-31*

# Polatsak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy, BAOC
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. & Fax. (216) 651-3451

# Зьмест



На развароце: Труппа Уладзіслава Галубка. Фота з архіву Я. Ціхановіча
На першай бачынцы вокладкі. **Міхась Басалыга.** Княгіня слуцкая Кацярына Алелькавіч
На чацьвёртай бачынцы вокладкі: **Уладзімір Басалыга.** Слуцкая брама ў Нясьвіжы




*Часопіс «Полацак» віншуе сваіх чытачоў і усіх беларусаў*
*з Калядамі і Новым 1994 годам!*
*Стары год канчаем, новы зачынаем.*
*З добраю парою, з буйнаю травою,*
*зь зяроном ядраністым, кветкай агністай,*
*зь летам красным і долечакй яснай!*
*Жадаем усім шчасьця, здароўя*
*і посьпехаў у справе Адраджэньня Беларусі!*

# Янка Купала
# і нацыянальна-дзяржаўнае адраджэньне

Вадзім Круталевіч




*Янка Купала. Мастак Яўген Ціхановіч*

Як выдатнейшы нацыянальны паэт, выразьнік народных спадзяваньняў, Купала ня мог ня быць вяшчальнікам вызваленчых ідэяў і натхняльнікам грамадзкіх сіл, што змагаліся за вольнае разьвіцьцё беларусаў як нацыі. Яго славуты верш «А хто там ідзе?», пра годнасьць і імкненьні прыніжанага народу, увасобіў у сабе сутнасьць беларускай нацыянальнай ідэі пачатку XX стагодзьдзя.

Палітычныя погляды Купалы фарміраваліся ў арганічнай сувязі зь ідэйнымі працэсамі ў набіраўшым сілу нацыянальным руху, зьяўляліся часткай адраджэнцкай ідэялёгіі, парасткі якой даў XIX век.

Сёньня асабліва прыцягваюць да сябе ўвагу меркаваньні Купалы, якія хstation
налягічна адносяцца да пэрыяду рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў Расеі. На крутым павароце гісторыі Янка Купала «асвайваў» сваё месца ў проціборстве грамадскіх сіл. Яго палітычнае «самавызначэньне» было не зь лёгкіх. Паэт быў сьведкам складаных сацыяльных зрухаў у сьвеце, нацыянальна-вызваленчага руху, жорсткага проціборства прыхільнікаў і праціўнікаў новай улады на тэрыторыі былой Расейскай імперыі, сьведкам жахлівых разбуральных вынікаў сусьветнай бойні, што асабліва закранула шматпакутную Беларусь.

Погляды Купалы на дзяржаўны лад Беларусі гэтага часу ахопліваюць вялікае кола пытаньняў—ад вызначэньня ідэйных асноваў самастойнай, незалежнай беларускай дзяржавы да водгуку на важныя бягучыя палітычныя падзеі. Шырыня падыходу й аналітычная глыбіня разглядаемых пытаньняў вылучаюць Купалу з шэрагу іншых аўтараў, якія выступалі ў друку па праблемах самавызначэньня Беларусі.

Доўгі час тэма, якой прысьвечаны гэты артыкул, заставалася ў цяні. Ганеньні супраць так званага нацыянал-дэмакратызму ў 30-я гады, што суправаджаліся рэпрэ-

сіямі супраць дзеячоў беларускай культуры, інтэлігенцыі, на дзесяцігодзьдзі пакінулі ў грамадзкай сьвядомасьці асадак страху. Што можа быць горш, па сваіх выніках, чым абвінавачваньні ў нацыяналізме? Хіба што шпіянаж на карысьць замежнай дзяржавы ды дыверсіі.

Пасьля выкрыцьця сталінскага генацыду і пачатай рэабілітацыі ахвяраў бязьмежнага тэрору зьявіліся магчымасьці для перагляду афіцыйных установак у ацэнцы беларускага нацыянальнага вызваленчага руху й яго лідэраў. У 60-70-е гады было нямала зроблена па аднаўленьню праўды аб абвяшчэньні БССР і ўзнаўленьню добрага імя З. Жылуновіча, А. Чарвякова й іншых «беларускіх нацыяналістаў», нягледзячы на моцнае супраціўленьне ідэялягічных службаў і пэўнай часткі гісторыкаў з высокімі вучонымі званьнямі.

Але больш складана па многіх прычынах ішлі справы зь пераглядам ацэнак, адносна беларускіх арганізацыяў і палітычных дзеячоў, якія рабілі намаганьні па стварэньню беларускай дзяржаўнасьці як альтэрнатывы БССР і Савецкай уладзе. Ды і сама такая пастаноўка пытаньня ўжо лічылася недазвольнай. Клясавых ворагаў трэба выкрываць, а не ставіць іх у адну плоскаць з дыктатурай пралетарыяту, якая пракладвае адзіна верную дарогу ў сьветлую будучыню чалавецтва. Акрамя таго ў такім падыходзе асабліва пільным ідэёлягам бачылася вольная ці міжвольная справа папулярызацыі беларускага буржуазнага нацыяналізму.

У наш час нібыта ніхто не навязвае зьверху, як пісаць гісторыю. Але дух нецярпімасьці да іншай думкі, прывітай за дзесяцігодзьдзі таталітарным рэжымам, далёка не разьвеяўся. Як і ў мінулым, матэрыяльна залежныя ад уладатрымальнікаў органы друку чутна ўлоўліваюць палітычную кан'юнктуру.

Пры падрыхтоўцы фундаментальнага выданьня «Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік» (1984 г.) здавалася, што, нарэшце, публіцыстыка Купалы 1919—1920 гг. як і яго палітызаваныя вершы (усе без выключэньня) будуць названы па імені і па магчымасьці неяк пракаменціраваны. Як гаворыцца, зь песьні слова ня выкінеш. Выдаўцы аднак так і не рашыліся пасягнуць на традыцыю. Але ня будзем строгімі: магчыма для такой смеласьці тады яшчэ не прыйшоў час. Да таго-ж у літаратуразнаўстве, у процівагу выкрывальнікам «нацдэмаўшчыны», умацавалася меркаваньне аб тым, што Купала ў цэлым добразычліва сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю і ўстанаўленьне Савецкай улады, хаця на справе-ж усё было больш складана.

Але дзякуючы гарбачоўскай перабудове, адкрыліся шлюзы галоснасьці, і неспакойная творчая думка імкнецца данесьці грамадзкай думцы праўду аб складаных і цяжкіх гадах у жыцьці і дзейнасьці Купалы. Публікуюцца «крамольныя» вершы й артыкулы паэта, матэрыялы дасьледчага характару [1].

Рэвалюцыя паставіла інтэлігенцыю, як і іншыя слаі насельніцтва імпэрыі, перад «палітычным выбарам». Дзесяткі тысяч яе прадстаўнікоў эміґравалі. Шматслойная па сваёй сацыяльна-прафэсіянальнай структуры інтэлігенцыя па-рознаму ўспрымала грамадзкія пераўтварэньні новай улады. Яна была хваравіта адчувальнай да гвалтоўнага боку бальшавіцкай рэвалюцыі, дзейнасьці карных органаў, дэспатызму новых уладаў. Інтэлігенцыя востра рэагавала на бессэнсоўнае зьнішчэньне матэрыяльных і духоўных каштоўнасьцей.

У серыі артыкулаў, апублікаваных у

пэрыядычных выданьнях у 1919—1920 гг. (газеты «Беларусь», «Звон» і некаторыя іншыя) Купала выказаў свае канцэптуальныя адносіны да хваляваўшых яго палітычных і сацыяльных праблем, пра што гавораць і самі загалоўкі публікацыяў: «Незалежнасьць», «Незалежная дзяржава й яе народы», «Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год», «Адбудова Беларусі», «Беларускае войска», «Больш самачыннасьці» і інш[2].

Адлюстраваныя ў публіцыстычных артыкулах, а таксама ў паэтычнай творчасьці погляды паэта, несьлі адбітак часу, былі своеасаблівым абагульненьнем праходзячых працэсаў. Стрыжневая ідэя, што аб'ядноўвала гэтыя публіцыстычныя выступленьні, тычылася шляхоў, сродкаў і перадумоў утварэньня самастойнай, незалежнай беларускай дзяржавы. Паэт прытрымліваўся ідэі, згодна зь якой шлях да вырашэньня карэнных праблем грамадзкага разьвіцьця Беларусі, ляжыць цераз нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэньне. На яго думку, «толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасьць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаваньне,і добрую славу нашаму народу»[3] (Беларусь павінна «стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі»[4] Дабіўшыся дзяржаўнай незалежнасьці, народ зоймецца потым надзённым сацыяльнымі праблемамі. Цераз 70 гадоў гэтыя матывы прагучалі ў Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР, прынятай Вярхоўным Саветам рэспублікі 27 ліпеня 1990 г.

Права Беларусі на самавызначэньне разглядаецца як выяўленьне сусьветнай гістарычнай тэндэнцыі —імкненьня прыгнечаных народаў да волі і раўнапраўя. Новыя нацыянальныя дзяржавы, што зьявіліся ў Эўропе ў 1918-1919 гг. (Чэхаславакія, Венгрыя, Югаславія, Фінляндыя) былі для Купалы прыкладам вырашэньня актуальных праблем і ў Беларусі.

Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі лагічна ўвязана Купалам з больш агульнымі яго прадстаўленьнямі аб грамадзкай перабудове. Імкнучыся спасьцігнуць сутнасьць палітычных і сацыяльных працэсаў, ён стварае сваю тэарэтычную мадэль грамадзкага разьвіцьця. У праходзячых у сьвеце зьменах паэт бачыць вынікі дзеяньня дзьвюх гіганцкіх сіл, што адстойваюць свае ідэалы і свае праграмы будаўніцтва новага жыцьця. З аднаго боку, гэта рэвалюцыя сацыяльная, а з другога—нацыянальная. У сьвятле тэорыі «дзьвюх рэвалюцыяў» ацэньваецца нацыянальны рух у Беларусі ў дакастрычніцкі пэрыяд, нацыянальная палітыка Савецкай улады, палітыка Польшчы ў адносінах да Беларусі, нацыянальны рух у глабальным маштабе.

Тыповыя праявы сацыяльнай рэвалюцыі паэт бачыць у Расеі. У яго ўяўленьні гэта рэвалюцыя *«ствараецца ў сваім пабедным паходзе ніштожыць усялякія нацыянальныя перагародкі і злучыць пад чырвоным сьцягам усе народы ўсяго сьвету»* [5]. Адсюль на практыцы яе адмоўнае стаўленьне да дзяржаўнай самастойнасьці прыгнечаных народаў.

Не прымаючы сацыяльную рэвалюцыю ў Расеі, Купала ў той-жа час далёкі ад таго, каб недаацэньваць яе сілу. І тут мы зноў зьвернемся да купалаўскага тэксту. Тэма нарысу такая, што цытата дапамогае данесьці да чытача купалаўскую думку без скажэньня. Акрамя таго чытач можа ўбачыць у ёй больш глыбокі сэнс, чым аўтар артыкула.

Купала піша: *«І нацыянальная і сацыяльная рэвалюцыя мае сваіх прыхільнікаў,*

*якія і змагаюцца шчыра за свае ідэалы»* [6]. Ён ня схільны лічыць кастырычніцкі пераварот у Расеі нечым выпадковым у сацыяльным разьвіцьці сьвету. І ўсё-ж сымпатыі Купалы на баку нацыянальнай рэвалюцыі, якая, па яго словах, ставіць сваёй задачай вызваленьне прыгнечаных нацыяў, імкнецца да таго, каб кожны народ «*пастанаўляў сам аб сваёй долі, і быў гаспадаром свайго краю, свайго багацьця*» [7]. Больш таго, гэта шлях вызваленьня ня толькі акцыяў «зь вечных путаў няволі», але чалавека ўвогуле.

Дакастрычніцкія творы Купалы, як вядома, былі поўныя страснага пратэсту супраць эксплуатацыі, прыгнёту, нацыянальнага заняволеньня .У іх смела выкрываліся парокі ладу, які прыніжаў і прыгнятаў працоўных, трымаў іх ў цемнаце і невуцтве, ўтрымліваліся заклікі да прыгнечаных мас, да актыўнага сацыяльнага дзеяньня. У зьмяніўшыхся ўмовах, калі ў рух прыйшлі шматмільённыя масы, жыцьцё паставіла новыя праблемы і патрабавала на іх канкрэтныя адказы.

Здавалася-б, што тэматычнай і ідэйнай накіраванасьцю ўсёй сваёй творчасьці, радыкальнымі рэвалюцыйна-дэмакратычнымі поглядамі Купала быў падрыхтаваны да таго, каб блізка ўспрыняць бальшавіцкую тэорыю і практыку грамадзкай перабудовы .Але гэтага не здарылася. І не таму, што Купала аказаўся няздольным зразумець сэнс кастрычніцкага перавароту. (Яго сутнасьць з вышыні накопленага грамадзкага вопыту навука працягвае спасьцігаць і цяпер). На нашу думку, адна з галоўных прычын разыходжаньня Купалы з бальшавікамі ў разуменьні суадносін нацыянальнага і сацыяльнага. Купала, прытрымліваючыся пастулата, што вырашэньне сацыяльных праблем перш за ўсё зьвязана з дасягненьнем прыгнечанай нацыі дзяржаўнай самастойнасьці.

Адстойваючы правы беларусаў на самавызначэньне, Купала разглядае прадпасылкі старэньня беларускай дзяржавы. На яго думку, геаграфічнае становішча краю «ня горшае як у людзей». Беларусь багата рэкамі, азёрамі, лясамі зямельнымі ўгодзьдзямі, мае чыгунку, багатыя гарады, прамысловыя прадпрыемствы. Па насельніцтву Беларусь пераўзыходзіць такія эўрапейскія дзяржавы, як Данія, Швейцарыя, Грэцыя. «*На лік мы народ вялікі,* —адзначаў Купала, —*нас 12 мільёнаў*». [8]

(Працяг у наступным нумары)

## Бібліяграфія

[1] Янка Купала. Вершы розных гадоў. З прадмовай Барыса Сачанкі /Полымя. 1988. № 10, Янка Купала. Публіцыстычныя артыкулы. Прадмова В.Круталевіча //Спадчына, 1989, №2, 1990, №1,2, Беляцкий А. Купала и революция. //Нёман. 1989, №11, Рагойша В. Купалаўская канцэпцыя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. //Звязда, 1992, 4 чэрвеня. Яго-ж: Бацька нацыі. // Полымя, 1992, №6, Каваленка Вінцук, Вяртанне да Купалы // ЛіМ, 1993, 22 студзеня, Сачанка Б.«Пяяць, аб чым думка пяе». Янка Купала ў першыя гады Савецкай улады. ЛіМ, 1993, 23 красавіка.

[2] Спадчына. №989, №3, 1990, №1,2.

[3] Янка Купала.Незалежнасьць /Спадчына, 1990, №2, с.15.

[4] Там-жа.с.14.

[5] Янка Купала. Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год //Спадчына, 1989, №2, с. 24.

[6] Там-жа

[7] Там-жа

[8] Янка Купала. Незалежнасьць // Спадчына. 1990, №2, с. 15.

# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў

Міхась Белямук

*Берасьцейская вобласьць*

**Людвінава, Драгічынскі р-н**

У нумізматычнай літаратуры называецца вёска Людвішча, Кобрынскага р-на, але ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобл.» Я. Н .Рапановіча вёскі Людвішча ці Людвішче, ці Людавішча няма. Мы знайшлі ў «Слоўніку» вёску Людвінава, Папінскага с/с, Драгічанскага р-ну, яна 7 км на поўдзень ад Драгічына. Нашае меркаваньне, што каля вёскі Людвінава ў 1934 г. быў знойдзены скарб, які складаўся пераважна з манэтаў нямецкае імпэрыі, але былі ў скарбе арабскі дыргем і аздоба сярэбраная, падвеска вялічынёй дэнара. Паколькі частку скарбу купіў нямецкі нумізмат Р.Гэтенс і апублікаваў, а другая частка скарбу, што знаходзіцца ў Ватыкане да гэтага часу неапублікаваная, то нашае ўяўленьне пра склад скарбу ўмоўнае. Нумізмат В.Потін праверыў апісаныя манэты Гэтенсам, выправіў памылкі, удакладніў апісаньне скарбу.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Арабскі | дыргем не разчытаны | | | | |
| **Ірляндыя** | Сітрык III, | кн. | 989-1029 | Дублін | 1 |
| **Англія** | Этэльрэд II, | кр. | 978-1016 | Гертфорд ??? | 1 |
| " | Этэльрэд II, | кр. | 978-1016 | манетніца ??? | 1 |
| " | Канут | кр. | 1016-1035 | Стамфорд | 1 |
| " | Канут | кр. | 1016-1035 | манетніца??? | 1 |
| " | Гарольд I, | кр. | 1035-1040 | Лінколн | 1 |
| " | Гарольд I, | кр. | 1035-1040 | Солсберы | 1 |
| " | Эдуард | кр. | 1042-1046 | Гертфорд | 1 |
| **Данія** | Канут | кр. | 1018-1035 | Лунд | 1 |
| " | Канут | кр. | 1018-1035 | Роскіле | 1 |
| " | Канут | кр. | 1018-1035 | Гедебю | 1 |
| " | Гартакнут | кр. | 1035-1042 | Лунд | 1 |
| " | Гартакнут | кр. | 1035-1042 | Роскіле | 1 |
| " | Гартакнут | кр. | 1035-1042 | Гедебю | 2 |
| " | Гартакнут | кр. | 1035-1042 | манетніца ??? | 1 |
| " | Свен, | кр. | 1047-1075 | Лунд | 4 |
| **Італія** | Генрык III, | цэс. | 1039-1056 | Верона | 1 |
| " | анонім | | з 1024-1026 | Верона | 1 |
| **Венгрыя** | Стэфан, | кр. | 1000-1036 | манетніца ??? | 1 |
| " | Андрэй, | кр. | 1047-1061 | манетніца ??? | 1 |

Працяг. Пачатак у №6(16)—8(28). 

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Чэхія** Спітыгнёў II | кн. | 1056-1061 | манетніца ??? | 21 |

**Нямецкай імпэры:**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Атон і Адэльгейда | | | | 25 |
| Вендкі | | | | 3 |
| Атон I, | імп. | 936-973 | Вормс | 1 |
| Антон II або Антон III | імп. | 973-1002 | Андернах | 3 |
| Атон III, | імп. | 983-1002 | Дортмунд | 1 |
| Атон III, | імп. | 983-1002 | Зест | 4 |
| Атон III, | імп. | 983-1002 | Канстанц | 2 |
| Атон III, | імп. | 983-1002 | Оснабрук | 1 |
| Атон III, | імп. | 983-1002 | Шпейер | 5 |
| Генрык II, | імп | 1002-1024 | Андернах | 1 |
| Генрык II, | імп | 1002-1024 | Вердун | 1 |
| Генрык II, | імп. | 1002-1024 | Вільдуген | 1 |
| Генрык II, | імп. | 1002-1024 | Вормс | 16 |
| Генрык II, | імп | 1002-1024 | Гюй (Бельгія) | 2 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Дэвентер | 4 |
| Генрык II, | імп. | 1002-1024 | Кёльн | 1 |
| Генрык II, | імп | 1002-1024 | Намюр(Бельгія) | 1 |
| Генрык II, | імп. | 1002-1024 | Рэмаген | 1 |
| Генрык II, | імп. | 1002-1024 | Майнц | 1 |
| Генрык II, | імп. | 1002-1924 | Тіль (Галяндыя) | 12 |
| Генрык II, | імп. | 1002-1924 | Утрэхт (Галяндыя) | 1 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Андернах | 1 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Вормс | 1 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Дуйсбург | 1 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Майнц | 6 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Кёльн | 1 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Льеж (Бэльгія) | 1 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Майстрыхт(Галяндыя) | 1 |
| Канрад II, | імп | 1024-1039 | Страсбург (Францыя) | 6 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Тіль (Галяндыя) | 17 |
| Канрад II, | імп. | 1024-1039 | Эслінген | 2 |
| Генрык III, | імп. | 1039-1065 | Ахен | 1 |
| Генрык III, | імп. | 1039-1058 | Вормс | 14 |
| Генрык III, | імп. | 1039-1065 | Канстанц | 1 |
| Генрык III, | імп. | 1039-1065 | Дуйсбург | 3 |
| Генрык III, | імп. | 1039-1065 | Селе | 1 |
| Генрык III, | імп. | 1039-1058 | Майнц | 8 |
| Генрык III | імп. | 1039-1065 | Эслінген | 1 |
| Генрык IУ | імп. | 1056-1106 | Цюрых (Швейцарыя) | 1 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Бернгард II, | герц. | 1039-1059 | Бардовік | 5. |
| Бернгард II, | герц. | 1039-1059 | Гамбург ? | 1 |
| Бернгард II, | герц. | 1039-1059 | Евер | 3 |
| Бернгард II, | герц. | 1039-1059 | Люнебург | 1 |
| Генрык IУ, | герц. | 1026-1040 | Рэгенсбург | 4 |
| Генрык УII, | герц. | 1053-1056 | Рэгенсбург | 3 |
| Готфрыд I, | герц | 1012-1023 | Лётарынгія | 1 |
| Гоцело, | герц. | 1023-1044 | Лётарынгія | 1 |
| Готфрыд II, | герц | 1044-1077 | Лер (Галяндыя) | 3 |
| Бардо | архп. | 1031-1051 | Майнц | 3 |
| Лупольд | архп. | 1051-1059 | Майнц | 8 |
| Бардо | архп. | 1031-1051 | Эрфурт | 2 |
| Лупольд | ярхп. | 1051-1059 | Эрфург | 3 |
| Генелін | архп. | 1035-1045 | Штадэ | 1 |
| Пілігрым | архп. | 1021-1036 | Андернах | 6 |
| Пілігрым | архп. | 1021-1036 | Кёльн | 1 |
| Герман | архп. | 1026-1056 | Кёльн | 6. |
| Ано, | архп. | 1056-1075 | Кёльн | 1 |
| Попо | архп. | 1016-1043 | Трыр | 5 |
| Адальберт, | архп. | 1043-1066 | Лер (Галяндыя) | 2 |
| Арнольд | еп. | 1044-1065 | Вормс | 2 |
| Бернольд | еп. | 1043-1066 | Гронінген (Галяндыя) | 26 |
| Бернольд | еп. | 1043-1066 | Дэвентер (Галяндыя) | 19 |
| Бернольд | еп. | 1043-1066 | Утрэхт(Галяндыя) | 4 |
| Вільгельм, | еп. | 1054-1075 | Гронінген (Галяндыя) | 1 |
| Вільгельм, | еп. | 1054-1075 | Утрэхт | 34 |
| Бруно | еп. | 1034-1044 | Вюрцбург | 2 |
| Готард | еп. | 1022-1038 | Гільдэсгейм | 3 |
| Гільберт | еп. | 1055-1080 | Мінден | 2 |
| Дзітвін | еп. | 1048-1075 | Тюэн (Бэльгія) | 1 |
| Канрад | еп. | 1056-1060 | Шпейер | 3 |
| Райнгард | еп. | 1025-1038 | Візе (Бэльгія) | 1 |
| Райнгард | еп. | 1025-1038 | Льеж (Бэльгія) | 1 |
| Райнгард ?? | еп. | 1025-1038 | Тюэн (Бэльгія) | 1 |
| Адэльгейда | абатіса | 999-1044 | Кведлінбург | 1 |
| Альбрэхт, | гр. | 1018-1064 | Намюр (Бэльгія) | 7 |
| Альбрэхт,II | гр. | 1018-1064 | Дінан (Бэльгія) | 9 |
| Бруно III, | гр. | 1038-1057 | Болсвард (Галяндыя) | 7 |
| Бруно III, | гр. | 1038-1057 | Докум (Галяндыя) | 47 |
| Бруно III, | гр. | 1038-1057 | Леўвардэн (Галяндыя) | 63 |
| Бруно III, | гр. | 1038-1057 | Ставорен (Галяндыя) | 1 |
| Віхман | гр. | 967-1014 | Вреден | 1 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Герман | гр. | 1020-1051 | Эмден (Галяндыя) | 10 |
| Герман | гр. | памёр 1090 | Евер (Бэльгія) | 2 |
| Дырк У, | гр. | 1061-1090 | Лейден (Галяндыя) | 1 |
| Ламберт | гр. | 994-1015 | Брусель (Бэльгія) | 1 |
| Удо | гр. | 1057-1082 | Штадэ | 9 |
| Балдуін ІУ, або Балдуін У, | гр. | 989-1067 | манетніца ??? | 1 |
| Маріенфэніг зь імём Канрада II, імп. | | | Шпейер | 4 |
| Маріенфэніг зь імём Канрада II, і Генрыка III імп. | | | Шпейер | 6 |
| Маріенфэніг зь імём Генрыка III імп. | | | Шпейер | 17 |

| | | |
|---|---|---|
| Ананімныя манэты нямецкае імпэрыі чаканеныя: | Аўсбург | 1 |
| | Вюрцбург | 2 |
| | Гітэльде | 14 |
| | Корбей | 2 |
| | Магдэбург | 3 |
| | у Саксоніі | 1 |
| | Лорш | 1 |
| | Майнц | 1 |
| | Фульда | 2 |
| | Эрфурт | 1 |

| | | |
|---|---|---|
| Імітацыя манэтам Балдуіна ІУ, гр. 989-1036 | Сант Омер | 1 |
| Імітацыя манэтам Эбергард, гр. 1047-1066 | Трір | 4 |
| Імітацыя манэтам Эбергард чаканеных у | Дэвентер | 1 |
| Імітацыя манэтам Эбергард чаканеных у | Кёльн | 9 |
| Імітацыя манэтам Эбергард чаканеных у | Ксантен | 1 |
| Імітацыя манэтам Эбергард чаканеных у | Утрэхт | 1 |
| Імітацыя манэтам Эбергард чаканеных у | Тіль | 15 |

| | |
|---|---|
| Лётарынгскі дэнар не расчытаны | 1 |
| Манэты германскае імпэрыі нерасчытаныя, сьцёртыя | 21 |
| Манэты заходня-эўрапейскія нерасчытаныя, сьцёртыя | 36 |
| Падвеска сярэбраная вялічынёй дэнара | 1 |

Gaettens R. 107 pp.
Gaettens R.[2] 1934 Sept. pp.121-135, Oct. 140-150, Nov. 160-168, Dec. 172-183, 1935 Jan. 195-206, March 224-229, Apr. 240-246, May 258-271, July 289-296, Sept. 317-327.
*Потин... б.27, 124, 133. 181, 190, 208, 220,*
*Потин[2]... б.178-180, №368*

***Малькавічы, Ганцэвіцкі р-н***

Ва ўрошышчы Града знаходзіцца курганны могільнік. У 1956 г. адзін курган разаралі і на ўзараным полі знайшлі сярэбраны літы бранзалет з X—XII ст., захоўваецца ў Берасьцейскім абласным краязнаўчым музэі.

*Кухаренко... б.13, 17, № 39. Яніцкая б.134, №8, Штыхов...[2] 17, №39, Збор ПГКБ, Брэст б.138, №434*

***Мікашэвічы, Лунінецкі р-н***

У 1914-1915 гг. недалёка ад чыгуначнай станцыі знайшлі манэтны скарб.Манэты людзі разабралі, але ў прыватным зборы А. Турцэвіча ў Нежыне зьбераглося 7 манэтаў ад знойдзенага скрабу.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Рымскія** | Антоніна Пія | 138-161 | бронза | 1 |
| " | Максенція | 307-312 | медзь | 2 |
| " | Фаўстыны (якая ??) | | серабро | 1 |
| " | Септымія Севера | 193-211 | серабро | 1 |
| " | не расчытаны | | серабро | 2 |

*Рябцевич ..б.191, №22, Кропоткин[2].. б.96, №1377, Поболь[2]... б.109, №170*

***Намакрава, Лунінецкі р-н***

Каля вёскі ва ўрочышчы Могліцы знаходзіліся курганы,якія да 1957 г. людзі разаралі і раскапалі. У курганах пры нябожчыках знаходзілі аздобы пераважна бронзавыя ,але ў адным з курганоў быў сярэбраны пярсьцёнак.

*Кухаренко.. б.17, №43*

***Пінск***

У 1871 г. Куклінскі раскапаў курган і знайшоў арабскі дыргем.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Саманіды** | Самарканд | Узбекістан | 952 /3 | Нух ібн Насра |

*Марков.. б. 24, № 135, Поболь[2].. б.114, № 225 Кухаренко б.20, № 128*

***Пінск***

У пачатку 30-х гадоў, як паведаміў краязнавец М. Алескяюк В.Рабцэвіча, што прыпадкова знайшлі медзяную рымскую манэту.

*Рябцевич .б 190, №12 Поболь[2] б.113, №225*

***Пінск***

У 1952 г. падчас умацаваньня берагоў Прыпяці Б.В.Сабунаеў знайшоў медзяную бізантыйскую манэту Канстанта II і яго сыноў Канстантына IУ, Погоната, Тібэрыя і Маўрыкія. Манэта чаканеная ў Сыцыліі 659-668 гг. Яна перахоўваецца ў Пінскім краязнаўчым музэі.

*Кропоткин[3]...* б.38, №299 Рабцявіч[6]. б.7

*Пінск*

Каля 1953 г. была на беразе Прыпяці знойдзена сярэбраная манэта: нямецкі дэнары, чаканены ў Кёльн. Потин В. спасылаецца на А. Успенскую, рукапіс «Белорусское Полесье —X-XIII вв», які знаходзіцца ў ІІМК.

*Потин [2]. б.180, № 370,* *Потин [3]. б.207, № 183 А*

*Пінск*

У 1954 г. быў знойдзены сярэбраны рымскі дэнары Фаўстыны Старэйшай, чаканены пасьмяротна. Фаўстына жонка Антоніна Пія, памерла ў 141 г.

*Кухаренко [4]. 21, № 19,* *Кропоткин [2]. б.96, № 1373,* *Рябцевич б.190, №13.*

*Пінск*

У 1963-1964 гг. П. Лысенко праводзіў раскопкі на дзядзінцы і ў вакольным горадзе. Ён знайшоў сярэбраны з тоўстага дроту бранзалет, сярэбраны пласьціністы бранзалет, білонавы створчаты бранзалет, аздоблены «ложной зерню» й устаўкамі з чырвонага камня. У 1964 г. П .Лысенко ў пласьце пачатку XII ст. знайшоў абразок з адбіткам Спаса Эмануіла, выразаны ў камні серпантыну. Абразок захаваў сляды пазалоты.

*Штыхаў і Захарэнка №43,* *Лысенко [5] б.295-297,* *Лысенко [6] б.99, 110, 193,* Коробушкина *б. 95,* *Пластыка Беларусі XII—XVIII стагоддзяў Мн. 1983, таб.2*

*Пінск*

У Пінскім краязнаўчым музэі перахоўваліся рымскія медзяныя манэты:
консульскі асс з 258-154 да хрысьціянскае эры;
асс Клаўдзія I, 41-54 хр.эры;
асс Веспасіяна 69-79 г. хр. эры;
асс Антоніна Пія 138-161 г.

*Кухаренко [4]. б.21, № 19*

*Пінск*

У пачатку 60-х гадоў падчас пракладаньня каналізацыйных трубаў знайшлі медзяную бізантыйскую манэту, чаканеную ў канцы XI ст.

*Поболь [6] б.287, №646.*

## Бібліяграфія

Глядзі: Полацак № 18: Кропоткин[2], Марков, Поболь, Поболь[2], Рябцевич, Яницкая
Полацак № 19: Потин, Штыхов[2]
Полацак № 21: Кропоткин, [3] Потин [2]
Полацак № 22: Потин [2]
Полацак № 27: Кухаренко
Полацак № 28: Кухаренко [4]

Коробушкина Т. Средневековые памятники южной и восточной Белоруссии. зб. Белорусская археология. Мн., 1987.

Кропоткин В. [5] Новые находки византийских монет на территории СССР —«Византийский временник». М.,1965, т.XXУI.

Лысенко П [4] Берестье. Мн., 1985

Поболь Л [6] Славянские древности Белоруссии. Мн., 1974

Рабцэвіч В. [6] Лісты В. Рабцэвіча да М.Белямука . У архіве Белямука. №1.

Gaettens R. Der Fund von Ludwiszcze. Ein Schatz deutscher und skandinavischer Denare des XI Jahrhunderts. Hale 1934, ss.107, tab. XII + map.

Gaettens R.[2] Der Fund von Ludwiszcze. Ein Schatz dentschen skandinavischen Denare des XI Jahrhunderts. --"Blatter Fur Munzfreunde Mnetscherift Fur Munz. und Schaunudzkunde. Dresden 1934-1935




1. Рымскі консульскі асс у Пінскім музэі.

2. Рымская сярэбраная Септымія Севера

3. Ірляндскі дэнары Сітрыка III.

4. Дацкі дэнары Канута.

5. Венгерскі дэнары Стэфана.

6. Каменная іконка зь Пінску.

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Аб галоўных прычынах крызысу сельскай гаспадаркі ў Беларусі

І.Нікітчанка

Прадуктыўнасьць зямельнай ураджайнасьці ў Беларусі складае прыблізна 77%. Шматлікія калгасы і саўгасы, не атрымаўшы ў гэтым годзе адпаведнай колькасьці паліва, запасных машынных частак не змаглі сабраць ураджаю, і таму аб стратах можна толькі гаварыць прыблізна, але яны будуць вельмі вялікія.

Сытуацыя ў жывёлагадоўлі ёсьць яшчэ горшая. Дадзеныя за апошнія 8 месяцаў гэтага году ў параўнаньні з 1990 г. паказваюць, што пагалоўе буйнай рагатай жывёлы зьменшылася на 17%, што азначае: кожная шостая карова выбыла з статку. Колькасьць сьвіньняў скарацілася на 22%. Неабходна ўлічыць, што прадуктыўнасьць жывёлы ўпала да ўзроўню 70-х гадоў. Удой на карову складаў у параўнаньні да 1990 году толькі 75%, вытворчасьць малака скарацілася на 35%. На столькі-ж зьнізілася і рэалізацыя мяса.

Урад наш і надалей працягвае лічбавай эквілібрыстыкай заблытваць свой народ. Розьніца з ранейшымі гадамі тая, што мы маем цяпер мажлівасьць гэтай інфармацыі запярэчыць. У 1990 г. інфармавалася, што на асобу прыпадае 116 кг мяса і 720 кг малака,але на самой справе кожны жыхар Беларусі атрымаў 75 кг мяса і 425 кг малака, бо 41кг мяса і 300 кг малака былі вывезены за межы рэспублікі. Паколькі ў наступныя пасьля 1990 г. гады памяншаецца вытворчасьць мяса і малака, а вываз іх за мяжу не прыпыняецца, прапарцыянальна зьмяншаецца і бюджэтныя паступленьні, але гэта не датычылся гарадзкога насельніцтва, якое, у пераважнай сваёй большасьці,не адчула крызісу ў сельскай гаспадарцы. Яно адчуе яго ў гэтым годзе і яшчэ больш ў наступныя гады, калі ўрад і далей будзе праводзіць палітыку папярэдніх гадоў. Паводля нашых падлікаў, у 1993 г. спажываньне мяса скароціцца да 55-57 кг на чалавека, малака да 320 кг. Гэта азначае, што людзі пачнуць недаядаць. Што да 1994 г. ,мы паўстрымоўваемся ад прагнозу, але агульна кажучы, сытуацыя харчаваньня пагоршыцца ў параўнаньні з гэтым годам. Такім чынам, вялікую колькасьць людзей якія сацыяльна мала абароненыя, менаваіта пэнсыянераў, чакае поўгалоднае жыцьцё. Баюся, што і гэты мой прагноз можа аказацца аптымістычным.

Якія-ж прычыны паклалі аснову эканамічнаму крызысу? Бязумоўна, што адна з прычын—гэта развал былога СССР і аднachасовы разрыў эканамічных сувязьзяў. Таксама гэтаму падзейнічалі спыненьне фондавых даставак, незбалансаванасьць цэнаў на тавары і шэраг іншых прычынаў, якія адыгралі адмоўнаю ролю.

Аднак усе пералічаныя прычыны ёсьць прадуктам больш глыбокага, далёкага мінулага, аб каторым стараюцца не гаварыць. Таму мы коратка сфармулюем галоўныя прычыны, якія прывялі да сучаснага эканамічнага крызісу.

Пачнем з гістарычнага аспэкту, каторым

ганьбавалі ў часы сацыялізму. Мы ведаем, што ў гісторыі Расейскай імпэрыі былі пэрыяды, калі сельская гаспадарка занепадала і трапляла ў крызыснае становішча. Але савецкая ўлада задала сьмярцельны ўдар сельскай гаспадарцы прымусовай калектывізацыяй, якая была паваротам да нявольніцтва зь нячуванымі масавымі рэпрэсіямі сялян.У выніку калектывізацыі селянін быў пазбаўлены ня толькі асноўных сродкаў вытворчасьці,але і грамадзкіх правоў (да сярэдзіны 50-х гадоў селянін ня меў права на пашпарт), прымусова загнаны ў калгас, ён быў ператвораны ў нізкаплатнага наёмнага працаўніка.

Другі фактар, каторы вызначыў сучасны фінальны стан сельскай гаспадаркі, ёсьць палітычны. Не сакрэт, што селянін на сваіх плячох вынес індустрыялізацыю і вайну. Грошы адымаліся ў сельскага вытворцы й укладаліся ў разьвіцьцё цяжкай прамысловасьці, якая працавала для мэтаў ваенных. За грошы сельскае гаспадаркі будавалі і разьвівалі лёгкую прамысловасьць. Адраджэньне і ўмацаваньне народнай гаспадаркі ў пасьляваенны пэрыяд у аснаўным адбывалася за кошт аграрнага сэктару. Прычым да 90% прыбыткаў сельскае гаспадаркі здымалі, каб яны былі скарыстаныя іншымі сэктарамі. Працягам доўгага часу грошы, прызначаныя на сельскагаспадарчы сэктар, выкарыстовываліся для розных іншых галінаў вытворчасьці. Часам іх беспасрэдна або пасрэдна ўжывалі для гарадзіх патрэбаў.

Разгрому аграрнага сэктару паспрыяў і ленінскі тэзіс: «Партыя бальшавікоў зьяўляецца партыяй рабочага кляса».Зразумела, гэта ў сутнасьці была наглая дэмагогія, бо той-жа рабочы кляс бязьлітасна эксплуатаваўся. Рабочы жыў убога і быў бяспраўны, ён, як і селянін, падпадаў пад рэпрэсіі. Фактычным «правячым клясам» была партыйная вярхушка, яна ўзурпавала ўладу зьверху донізу. Калі ходзіць аб сялянстве, то яно асабліва эксплуатавалася,лічылася бяспраўным клясам. Такое палажэньне дазволіла лідэрам дзяржавы праводзіць у сельска-гаспадарчым сэктары розныя авантурыстычныя экспэрыменты, як ўпамянутая калектывізацыя і асваеньне цаліны. Традыцыйныя зоны земляўладаньня заняпадалі, бо тое, што прызначалася для беларускай вёскі (калгасу), ішло ў Казахстан, які пад поглядам аграрным знаходзіўся ў рызыкоўнай зоне.

Мяжой палітычнага валюнтарызму стала бязьлітасная камандная сыстэма,што ў апошнія дзесяцігодзьдзі гаспадарыла ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі, але найбольш зьнішчальна дзейнічала ў аграрным сэктары. Даходзіла да такога абсурду як вызначэньне ў Менску набору культур і структур пасеўных палёў.Прычым, падыходы чыноўнікаў былі, што ўсе зоны адолькава кліматычна і глебна вартасныя. Для менскіх чыноўнікаў не было розьніцы паміж Віцебскай і Гомельскай вобласьцямі,для чыноўнікаў яны былі роўнавартаснымі, аднаго гатунку. Чыноўнікаў не цікавіла, ці могуць даную культуры вырашчываць, ці ёсьць на гэта мажлівасьці.Кожны кіраўнік гаспадаркі павінен быў пасеяць даную культуру на адпаведнай плошчы, калі плян зацьверджаны ў Менску і даручаны выкананьню райкому партыі.Пярэчыць забаранялася. Зразумела, што пры такім гаспадарыньні страты былі каласальныя. Сколькі спальвалі вясной лёну, разасланага папярэдняй восеньню, ніхто не падлічваў. Страты і прычыны стратаў не дыскутаваліся, а яны былі вялізарныя. Адны толькі экспэрыментальныя базы Рэспубліканскіх навукова-дасьледчых інстытутаў панесьлі страты на 16 млн.руб. Калі зрабіць сярэдні падлік, то ў тым-жа

самым годзе сельская гаспадарка не далічылася 130 млн. руб. У выніку такой камандной сыстэмы быў нанесены аграрнаму сэктару другі вялічэзны ўдар (першы гэта калектывізацыя). Селянін (калгасьнік) стаў адносіцца да ўсяго абыякава, яго перастала цікавіць сельска-гаспадарчая вытворчасьць, павышэньне прадуктыўнасьці і вынікі сваёй працы. Назіраючы поўную безадказнасьць тых, хто дае загады, селянін (калгасьнік) ста ў пасыўным, *безадказным* у адносінах агульна-грамадзкай маёмасьці і вытворчасьці.

Наступнай прычынай развалу вытворчасьці стала поўная ігнарацыя законаў экономікі. Мы часткова аб гэтым ужо гаварылі. Дадамо, што яшчэ адным з праяўленьняў поўнага эканамічнага нігілізму была сыстэма цэнаўтварэньня на прадукцыю сельска-гаспадарчую, якая ужываецца нават цяпер. Аўтары цэнаў ня могуць адказаць на пытаньне, чаму яны ставяць цану такую, а не іншую? Такія цэнаўтваральныя фактары,як грамадзка неабходныя выдаткі, падаткі, колькасьць і якасьць працы, якасьць асноўных сродкаў вытворчасьці амаль зусім пад увагу ня браліся. І што-ж атрымлівалася? Літар малака каштаваў меней за літар газіраванай вады. Хлеб, бульбу, мяса дзяржава купляла па цэнах у некалькі разоў ніжэйшых ад базарных. Для таго, каб сельская гаспадарка ня рухнула, каб утрымаць яе ад развалу, увялі так званыя «датацыі», каторыя давалі мажлівасьць утрымацца на «плаву». Аднак гэтыя «датацыі» стымулям добрага гаспадарыньня не аказаліся, калгас ці саўгас ня мелі права прадаваць сваю прадукцыю паводля свайго разьліку. Калі гаспадарка трапляла ў клопат, дзяржава рабіла жэст—анулявала задоўжанасьць. Такая разбэшчаная практыка паспрыяла нараджэньню стабільнага інстынкту «спажывальніцтва»,каторы дзеіць нават сёньня.У сувязі з гэтым, у сучасных умовах бальшыня кіраўнікоў калгасаў ня могуць самастойна вырашаць праблемы.

Галоўным-жа пытаньнем зьяўлялася праблема земляўладаньня й уласьніцтва на сродкі вытворчасьці. Нават калгасы ня былі іх ўласьнікамі,а што-ж казаць аб «госхозах»?Вынік атрымаўся жахлівы— занядбанасьць зямельных палёў, паніжэньне *ўраджайнасьці з гэктара, неэфэктыўнае* выкарыстаньне палёў. Дзеля прыкладу, у 1990 г., які лічыцца «благоприятным», затрата энэргіі ў калгасах і саўгасах складала 10.140.000 конскіх сілаў або каля 16,3 конскіх сілаў прыходзілася на 100 га ральлі. Пры гэтым у калгасах і саўгасах працавала 1.160.000 асобаў, што склала 25% усяго працаздольнага насельніцтва Беларусі. У ЗША затрата энэргіі была на 40% меншая, а ў сельскай гаспадарцы працавала каля 3.2% працаздольнага насельніцтва.

Мы ня можам абыходзіць моўчкі сацыяльны фактар. Па праўдзе, вясковы працаўнік ніколі ня меў прававой абароны. Мы ўжо ўспаміналі, што да сярэдзіны 50-х гадоў вяскоўцам забаранялася мець пашпарты. Да 70-х гадоў калгасьнікі не былі забясьпечаныя пэнсыяй. Калі пэнсыю ўвялі, *яна была 12 руб. і на сёньняшні дзень ня* шмат павялічылася. Калгасьнікі па-сутнасьці знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад кіраўніцтва гаспадаркі. Бяз добрай волі старшыні калгаса ці дырэктара саўгаса селянін ня зможа ні апрацоўваць сваю дзялянку каля хаты, ні назапасіць пашу для жывёлы, ні прадаць сваю прадуцыю. Такое абуральнае бяспраўе ніяк не ўкладаецца ў рамкі дэклярацыі правоў чалавека, яна мажлівае там, дзе пануе каляніяльная сыстэма. Бязумоўна, што шматгадовы зьдзек над чалавекам адбіўся на характары селяні-

на, зрабіў яго абыякавым да ўсяго.

Наступная прычына крызыснай сытуацыі —абсалютная неяўвага да навукова-тэхнічнага прагрэсу. Беларускія навукова-дасьледчыя інстытуты за апошнюю пяцігодку знайшлі 25-30 навінак, вырасьцілі новыя гатункі збожжавых, бабовых, бульбяных, льняных ды іншых культур, выпрадукавалі новыя гібрыды жывёлы, вырабілі новыя віды тэхнікі ды знайшлі іншыя вынаходзтвы. Калі-б усё гэта было скарыстанае, то прадукцыйнасьць паднялася-б у некалькі разоў вышэй і адначасна панізіліся-б затраты на прадукцыю. Але гэта ня ёсьць зручным кіраўніцтву сельскай гаспадаркі, бо сыстэма надбавак да закупачных цэнаў значна паменшылася-б, нават не выключана,што надбаўкі ліквідавалі-б. Дзеля гэтага кіраўніцтва вымушана было патроху павялічваць тэмпы вытворчасьці і трымаць у рэзэрве каля адной трэці свайго патэнцыяла. Таксама існавалі й іншыя прычыны.



*Васіль Шаранговіч*

Заканчэньне ў наступным нумары



# ЗВАРОТ

## да берасьцейцаў у сьвеце.

Шаноўныя землякі!

У сувязі з надыходзячымі 975-мі ўгодкамі старажытнага й слаўнага места Берасьця маем радасьць і гонар запрасіць усіх, хто да зямлі роднай ласку мае, на сьвяткаваньне юбілею горада Берасьця, на фэст берасьцейцаў. Мы чакаем усіх, хто нарадзіўся, жыў, альбо чые продкі паходзяць зь Берасьця й гарадоў і вёсак Заходняга Палесься. Мы спадзяемся, што адгукнуцца ўсе, каму сустрэча з роднымі мясьцінамі на Палесьсі як гаючая вада на сэрца, якая прыносіць радасьць ды пяшчотныя ўспаміны. Мы чакаем вас, берасьцейцы, 26-29 ліпеня 1994 года ў старажытным Берасьці.

Берасьце — адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі, які знаходзіцца на беларуска-польска-украінскім памежжы, паміж Захадам і Ўсходам. Тут здаўна ўжываліся розныя народы, рэлігіі й культуры. Мы лічым, што сьвята горада, які зьяўляецца галоўным адміністратыўным і культурным цэнтрам Заходняга Палесься, немагчыма безь яго людзей — якія жылі й якія жывуць у ім цяпер, славутых і самых звычайных, простых працаўнікоў: беларусаў і расейцаў, украінцаў і палякаў, габрэяў і іншых людзей, якіх лёс раскідаў ня толькі па зямлі Беларусі, але й па ўсіх кутках сьвету. Усе яны ўнесьлі свой уклад у нашу багатую спадчыну.

Мы спадзяемся на разуменьне ідэі правядзеньня фэсту берасьцейцаў пад час сьвяткаваньня 975-годзьдзя Берасьця й мяркуем, што ўсе тыя непаразуменьні, якія калісьці былі сярод берасьцейцаў розных культураў і рэлігіяў, адыдуць у мінулае ў імя Адраджэньня, у імя росквіту нашага палескага краю.

Грамадзкае аб'яднаньне «Стары горад», якое выступіла зь ініцыятывай правядзеньня фэсту берасьцейцаў, просіць усіх, каго зацікавіла гэтая імпрэза, хто хацеў бы прыехаць на сьвята горада адгукнуцца й напісаць нам на адрас:




Рэспубліка Беларусь.
224000, г.Берасьце.
паштамт, а/с 40.
«Стары горад».





# Шаноўнае спадарства!

26-29 ліпеня 1994 года старажытнейшы горад Беларусі — Берасьце адзначыць свае 975 угодкі. У рамках сьвяткаваньня мае адбыцца фэст берасьцейцаў сьвету й навуковая канфэрэнцыя: «Гісторыя й сучаснасьць Берасьцейшчыны».

Пад час канфэрэнцыі плянуецца разгледзець пытаньні па наступных накірунках:

- Грамадзства, рухі й асобы ў сьвятле палітычных падзеяў (праблемы самасьвядомасьці, культуры, навукі й г.д.);
- Гісторыя, самакіраваньне, краязнаўства;
- Рэлігійныя працэсы ва ўмовах шматканфэсыйнасьці;
- Праблемы вывучэньня, захаваньня, пошуку й вяртаньня матэрыяльна-культурных каштоўнасьцяў Берасьцейшчыны (рухомыя й нерухомыя помнікі: архівы, бібліятэкі, архітэктура, археалогія й г.д.);
- Эканамічныя стасуткі рэгіёну: рэтрасьпектыва й персьпектыва.

Погляд на сучасную Эўропу праз гістарычны лёс Берасьцейшчыны; асэнсаваньне ролі незалежнасьці Беларусі ў варунках новага эўрапейскага супольніцтва; абгрунтаваньне неабходнасьці стварэньня рэгіянальнага навукова-дасьледчага цэнтра — мэты гэтае канфэрэнцыі.

Шчыра запрашаем Вас узяць удзел у гэтай канфэрэнцыі. Просім даслаць тэмат магчымага дакладу не пазьней за 1 сакавіка 1994 года. Тэзы дакладаў будуць выдадзены ў зборніку навуковых матэрыялаў. Будзем удзячныя Вам за параду запрасіць тых ці іншых кампетэнтных асобаў. Зьвяртайцеся па адрасе:

- Рэспубліка Беларусь, 224016, г.Берасьце, бульв.Касманаўтаў, 48, Абласная бібліятэка, нам.дырэктара сп.Т.Муха.
- Тэлефон для даведак: (016-22) 3-21-11, факс 3-95-94 (з адзнакаю "для «Старога гораду»")

---

**Аргкамітэт:**

(Берасьцейскае) грамадзкае аб'яднаньне «Стары горад»

Выканаўчы камітэт Брэсцкага гарадзкога Савета народных дэпутатаў

Берасьцейская абласная філія Беларускага рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў (імя Л.Сапегі)

Берасьцейская рэгіянальная рада Беларускага народнага фронту «Адраджэньне»

Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут

Брэсцкі політэхнічны інстытут

Брэсцкі абласны краезнаўчы музэй

Музэй абароны Брэсцкай крэпасьці

Брэсцкая абласная бібліятэка

# З архіваў КДБ

## Сьведчаньні А. А. Смоліча

ад 15 жніўня 1930 г.

О Горецком паказываю следующее:

Является он, безусловно, выдающейся фигурой среди всех известных мне молодых специалистов сельского хозяйства и вообще среди нацдемократической интеллигенции. Он объединяет в себе очень хорошую научную подготовку с большой трудоспособностью, с организаторскими й административно-торскими талантами.

Познакомился я с ним в 1924 г. в Минске, но ужо раньше было много наслышан о нем от его товарищей по Москве, в частности, от Кислякова, о его работе по созданию Ассоциации, вообще об организаторских способностях. Слыхал затем о ликвидации Ассоциации, об аресте Горецкого, но точных причин не знал. При первой встрече в 1924 году я, между прочим, осведомился, желает ли он переехать на работу в Белоруссию. Тогда он был еще первый год аспирантом в НИИ сельскохозяственной экономии в Москве и заявил, что собирается еще долго учиться. Впрочем, в 1925 г. уже он дал согласие преподавать в Горках, приезжая для этой цели из Москвы. В 1926-м году, когда поднялся вопос о заместителе Малюшинского, которого раньше предполагали назначить директором БелНии сельского хозяйства, несколько человек выдвинуло кандидатуру Горецкого, выдвигали, правда, и мою кандидатуру, но я ее снял в пользу Горецкого, так как чувствовал себя сильно отставшим относительно от агронономии и вообще полагал, что Горецкий с этим делом лушче справится. Это мое предположение вполне подтвердилось.

Первое время, кога я еще был связан с Научно-исследовательским институтом (в 1927 г.), а Горецкий не совсем хорошо ориентировался в Минских условиях, и нередко спрашивал у меня советов по разным деловым вопросам. Между прочим, я рекомендовал ему то помещение, где теперь находится институт,выдвинуло идею издания специального журнала («Сельскай і лясной гаспадаркі») и т.п. Иногда спрашивал меня Горецкий и относительно отдельных кандидатур (Малюшинский, Винер, специалисты и аспиранты отдела сельскохозяйственной экономики, которым я заведовал). Скоро, однако, он перестал ко мне обращаться за советами, вероятно, потому, что вошел целиком в курс своего дела; даже по моему отделу он проводил назначения, не спрашивая моего мнения. Фактически уже к концу первого года существовования Института, Горецкий руководил и отделом сельскохозяйственной экономики, хотя временным зав. отделом считался я. Против этого, впрочем, я ничего не имел, так как был перегружен работой и собирался уходить из Научно-исследовательского института (я с самого начала дал согласие только временно заведовать отделом), а руководство Горецкого было вполне преемлемо и лично для меня полезно. Мы с ним работали в смежных областях науки, интересовались нередко одними и теми-же темами. Он, однако, получил значительно более широкую экономическую подготовку, довольно хорошо владел марксисткім

методом исследования, и поэтому я часто сам обращался к нему с сомнительными вопросами моей научной работы, давал ему на первую критику свои рукописи и получал от него ценные замечания.

После моего ухода из Института говорить с Горецким об институцких делах мне почти не приходилось. Помню, что говорил, что вряд ли это удастся, так каб большинство дирекции и совета против Демидовича, но обещал еще раз поговорить на эту тему с Прищеповым. Приходилось мне говорить с Горецким и на политические темы. Он, безусловно, является достаточно ярким белорусским нацдемократом и обычно явления политичекой жизни расценивал с точки зрения их пользы или вреда для белорусского возрождения. Яго прежние социальные и политические взгляды мне не достаточно известны, но ўжо в 1928 г. он мне лично определенно заявил, что стоит за социалистический путь разьвития Белорусии и что эту же точку зрения должны принять все «белорусы», так как именно она для Белоруссии, исходя из ее национальных интересов, является наиболее приемлемой. При всякой иной постановке вопроса Белоруссии суждено роль аграрной колонии и тольки в составе СССР она может индустриально развиваться и как западная, найболее интенсивная часть Союза, и в виду принципа усиленной индустриализации краины, проводимога партией, националистическую точку зрения Горецкий проводил при подборе работников для Института, стремясь использовать для него в первую очередь специалистов-белорусов, а также и в общих вопросах научного строительства. Так, при выступлениях в Госплане по поводу структуры научно-исследовательского дела в Белоруссии, Горецкий выступал в полном согласии с другими нацдемократами, не защищая даже самостоятельности своего института и соглашаясь на его включении в Белорусскую Академию наук отражалась эта точка зрения и в его научной деятельности. Основная его работа «О национальном доходе Белоруссии» построена по методу буржуазных экономистов—главным образом Прокоповича и в некоторых своих частях может служить для экономического обоснования нацдемократических теорий. Националистической характер носят и его работы о национальном составе населения Гомельщины и особенно о национальной статистике белорусов в 1926-м году, где он анализировал процессы ассимиляции у белорусов.

Г.И. Горецкий является сторонником и проповедником самых быстрых темпов индустриализации БССР.,самых больших размеров капитальных вложений, как в индустрию, так и в сельское хозяйство, так как таким путем Белоруссия найболее быстро может ликвидировать свою экономическую отсталость. Под его в значительной степени влиянием были приняты исключительно интенсивные формы мелиорации в БССР, имел он достаточно широко и своевременно поставить вопрос о развитии исследовательского дела и о его финансировании. По его плану и под его руководством была открыта при БАН первая в СССР кафедра теории штандорта народного хозяйства. При Научно-исследовательском институте, уже в продолжение первых двух лет превратившемся в крупный исследовательский центр, выросли совершенно новые, крупные —всесоюзного масштаба—центральныя станции: свиноводческая и картофельная. Горецкому принадлежит идея создания этих станций, и он же провел основную организационную работу по их развертыванию.

Будучи хорошо знаком с условиями и

особенностями сельского хозяйства БССР, Г. Горецкий в последние годы усиленно подчеркивал необходимость организации научной работы и капитального строительства,исходя из перспектив генплана. В этом отношении он оперижал всех известных мне экономистов БССР. Для практической работы он нередко выставлял положения, которые только впоследствии стали насущнейшими плановыми установками. Так, еще в 1927 г. при открытии Института, он проводил мысль о необходимости исключительного внимания проблемы свиноводства и картофеля, на которые многие экономисты в то время смотрели довольно скептически. Также и вопрос узкой специализации сельского хозяйства в настоящее время именно Горецкий ставится наиболее резко, вплоть до монокультуры, тоже можна сказацьи относительно проблемы агроиндустриальных комбинатов, стандарта и строительства социалистических городов и т.д.

Г.Горецкий очень много работал над собою, над преодолением внутри себя остатков буржуазных мировоззрений, как он сам писал в своем прошлогоднем годовом отчете о деятельности, над более совершенным овладением марксистским методом. В этом отношении он служил хорошим примером и оказывал помощь и влияние, как на своих аспирантов, так и на завтрашних научных работников.

Полагаю, что Горецкий имел влияние и на деятельность Наркомзема, в частности на самого Прищепова с которым он был в хороших отношениях. Возможно и обратно влияние Прищепова на Горецкого, но вообще по этому вопросу я недостаточно осведомлен.

Г.И. Горецкий работал в 1928 и 1929 гг. БЕЛВАРНИСТО и был председателем его сельскохозяйственной секции; большой активности в этом деле он, однако, не проявил, как, впрочем, и большинство ответственных работников, входивших в это общество.




*Мэмарыяльная дошка, устаноўленая ў Горацкай сельска-гаспадарчай акадэміі ў дні сьвяткаваньня 100-гадовага юбілею Максіма Гарэцкага ў лютым 1993 г.*

 ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ 

# Полацкая кнігарня

Уладзімір Содаль

Гісторыя беларускіх кнігарняў пакуль яшчэ не напісана. Аўтар нататкі-досьледу «Полацкая кнігарня» мроіць напісаць такую гісторыю. Ужо намножаны для гэтага досыць матэрыялу: па крупінцы, па радочку. Калі паспрыяе здароўе і час, ён такую гісторыю напіша. А пакуль адна зь яе старонак.

Пасьля рэвалюцыі 1905 г., як вядома, пачаў аднаўляцца беларускі легальны друк, ствараліся выдавецкія суполкі, засноўваліся друкарні. Але,як слушна зазначала 25 снежня 1914 года «Наша ніва», выдрукаваць кніжку — гэта яшчэ ня ўсё: трэба паруліцца, каб яна дайшла да нашага народу. А людзі праглі друкаванага слова. Вось у такіх варунках і ўзьнікла ў Полацку зь першых на абсягах нашага краю беларуская кнігарня. Беларуская кнігарня ў Полацку паўстала невыпадкова. Полацак з даўніх часоў слыў як сэрца Беларусі, як яе даўняя сталіца. Адсюль паўсім нашым краі разыходзіліся асьветніцкія промні славутай Еўфрасіньні Полацкай, Франьцішка Скарыны, Сымона Полацкага.

Вось таму нашаніўскія дзеячы найперш парупіліся,каб у колішняй беларускай сталіцы, слынным Полацку была свая кніжніца, свая кнігарня. Перад гэтым была заснавана беларуская кнігарня ў Вільні, Менску. Полацак быў трэцім горадам,дзе паўстала беларуская кнігарня. Водгулле пра яе заснаваньне гучыць у нашаніўскай нататцы «Тожэ беларусы» за сёмага сакавіка 1914 году. Аўтар яе хтосьці Піліп Дубчонак паведамляў: «Сустрэціўся я гэтымі днямі ў Полацку на вагзалі з сваім колішнім сябруком-прыяцелем.І слова па слову разгаварыліся перш аб здароўі, пасьля аб пагодзе, у канцы аб беларушчыне. Я, па-старому, стрэціўшы свайго сябру, хоць і ў мяне на шапцы чыноўніцкая звёздачка, пачаў гаварыць да яго па-свойму, а ён мне як па-маскоўску так па-маскоўску. У канцы я пытаўся: «Што-ж, браце, ты ня хочаш са мной гаварыць па-беларуску?» А ён у адказ пачаў гарадзіць, што ў беларускай мовы няма і літаратуры і беларуская мова толькі мужыцкая.

Я сабе слухаю і чакаю канца гутаркі. Дачакаўшы канца многаслоўнае гутаркі, я спавольна разьвінуў пачок з кніжкамі і паказваю майму сябруку нашу літаратуру, паміж іншымі кніжку «Шляхам жыцьця» Янкі Купалы, «Гісторыю Беларусі»—Власта і колькі дробных кніжак».

Гэтая нататка сьведчыць, што ў Полацак завітаў хтосьці з нашаніўцаў і ішла падрыхтоўка да адкрыцьця першай беларускай кнігарні. Пра адкрыцьцё беларускай кнігарні ў Полацку маем паведамленьне і ў «Нашай ніве». Першая згадка пра гэтую кнігарню 13 кастрычніка 1914 года. У 43 нумары апавяшчалася, што ў горадзе Полацку адчынілася Беларуская кнігарня. Паведамляўся й яе адрас: вуліца Спаская дом Бакаева. «Беларуская кнігарня,—гаворылася ў той абвестцы,— суліць поўны выбар беларускіх кніжак. Прымае падпіску на ўсе беларускія

часопісы». У сорак пятым нумары абвестка пра полацкую кнігарню паўтарылася.

Нашаніўцы падахвоцілі працаваць у полацкай кнігарні маладую беларускую паэтку Канстанцыю Буйло. Пра той момант яна згадвае так: «Цётка і Купала ўгаварылі мяне паехаць у Полацак, заняцца асьветніцкай працай сярод беларускай моладзі. Чамусьці гэта разглядалася як нейкі подзьвіг. Помню, калі я згадзілася, парывістая Цётка схапіла маю руку і пацалавала яе. Паехала я ў Полацак. Працавала ў беларускай кнігарні. Вакол мяне сабраўся гурток моладзі. Мы чыталі кнігі, рабілі рэфераты. Матэрыяльныя сродкі на гэтую работу даваў продаж кніг, якія мне прысылалі зь Вільні». [1]



*Канстанцыя Буйло*

Гэта, бадай, усё, што мы да апошняга часу ведалі пра полацкую беларускую кнігарню. Такое скупое пазнаньне мяне ня вельмі задавальняла. У 1976 годзе ў мяне надарылася нагода спаткацца з слыннай паэткай, і я не прапусьціў выпадку, каб не распытацца больш падрабязна пра полацкую беларускую кнігарню. I вось што я пачуў:

—*Нам, тагачасным пісьменьнікам, даводзілася займацца ня толькі творчасьцю. Мы рабілі ўсё, што вымагалі ад нас час і эпоха: стваралі харавыя і драматычныя гурткі, бібліятэкі, кнігарні. Вось так я і патрапіла ў Полацак. Кнігарня ў Полацку была даволі ладная і бадай ці ня першая такая ў Беларусі. Памятаю, калі я пагадзілася ехаць ў Полацак, — Цётка схапіла парывіста маю руку, пацалавала яе, нібы я што гераічнае зрабіла. Знаходзілася кнігарня ў цэнтры горада, недалёка ад сабора. Як называлася вуліца — не памятаю. Кнігарня праіснавала толькі адну зіму і лета і сышла з вайною. У вайну ў ёй разьмяшчаўся шпіталь. Кніжкі-ж былі спакаваны і адпраўлены ў Вільню. Паклапаціўся аб гэтым Ластоўскі. Гэта была нашаніўская кнігарня. Чым я там займалася? А ўсім... Прадавала кнігі. Памятаю, было шмат беларускіх календароў...*

— *I куплялі?*

—*А чаму-ж не... Пасьля 1905 года людзі праглі друкаванага слова. А я-ж прадавала ня толькі беларускія кніжкі. Былі там кніжкі й іншых аўтараў пра Беларусь, папольску і руску. Заходзіла ў кнігарню пераважна моладзь: гімназісты, семінарысты, курсісткі. Заходзілі ў друкарню і салдаты. У Полацку ў тую пару надзвычай шмат было салдатаў. Сярод іх былі і беларусы. Іх таксама брала цікавасьць, што гэта за беларуская кнігарня, і што ў ёй прадаецца. Упершыню-ж такія кнігарні зьявіліся на сьвет. I заходзілі. Мяне там вельмі паважалі.*

---

*Пяцьдзесят чатыры дарогі. Мн.,1963, с.76-77.*

*Я-ж была ня проста кнігаром. На мяне ўсе глядзелі як на літаратара. На паліцах стаяла і мая «Курганная кветка». Прадавала ўсё, што выпускала суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца». Чытала вершы, праводзіла гутаркі, тлумачыла людзям, што робіцца на сьвеце. Шмат было гаворак пра адраджэньне беларускага народу. Асабліва гэтым цікавіліся студэнты і семінарысты. Моладзь была парывістая, нацыянальна сьвядомая. Памятаю, усе прасілі: «Давайце значкі паробім, каб усе бачылі, што мы беларусы». Сёньня нікога зь іх не помню. Запомнілася адна хіба толькі Галя. Такая чарнавокая, жвавая дзяўчына была. Зь ёй я дзялілася ўсім: мабыць таму, што тэмпераменту шмат агульнага было. Заходзіў у нашу кнігарню зрэдку і паліцэйскі, рыжы такі з пакручастымі вусамі. Заходзіў нібы сабе так, а на самой справе, я здагадвалася цікаваў, што тут робіцца. У мяне на ўсякі выпадак знаходзіўся для яго пачак цыгарэт. Ён браў яго, казаў мякка: «Дзякую, дачушка», — і супакоены выходзіў. А мы працягвалі займацца сваімі клопатамі.*

У сярэдзіне васьмідзесятых гадоў я вырашыў пацікавіцца ў палачанаў, ці памятае хто зь іх пра беларускую кнігарню. Напачатку зьвярнуўся ў тутэйшы музей, Там пра беларускую кнігарню ведалі ня больш, чым я. Вось іхні адказ:

*«5 февраля 1981 года на ваше письмо относительно пребывания в г. Полоцке Констанции Буйло можем сообщить. Дом, в котором размещалась друкарня, находился на ул. Вицебской около кадетского палаца. Сейчас его нет, разрушен в годы Великой Отечественной войны. В городе есть нес-*



*Полацак. Так выглядаў да рэвалюцыі Кадэцкі корпус, каля якога разьмяшчалася Полацкая кнігарня*

*колько старажилов, которые посещали книгарню, но Буйло не помнят. Помнят только, что работала женщина. К сожалению, сведаений о книгарни в музее нет.*

*Научный сотрудник музея —Олег Лысенко».*

Музейшчыкі, як бачым, ня вельмі сыпнулі. І ўсё-ж гэты адказ клікаў на пошукі, на росшукі, падказваў шляхі да іх. У 1984 г. я зьвязаўся зь вядомым полацкім краязнаўцам Іванам Лэйнісам. Спадар Лэйніс нарадзіўся ў 1900 г. На час знаёмства яму было восемдзесят чатыры. Пра беларускую кнігарню ў Полацку паведаміў наступнае: *«...мясьцілася на вуліцы Спаскай, цяпер рэшткі гэтай вуліцы на Верхне-Замкавым праезьдзе. На згаданай вуліцы быў аднапавярховы двухкватэрны дом. Кнігарня займала левае крыло дома. Мне даводзілася бываць у кнігарні і купляць кніжкі, зборнікі апавяданьняў. Запомніў кнігу «Рунь» — аўтара ня помню, зборнік гумарыстычных апавяданьняў «З маленькім білецікамі». За кнігара была маладая жанчына, і была паліца для кніг, пераважна віленскага выданьня. Наведнікаў было няшмат. Зь беларускім пісьмом былі знаёмыя мала хто. Цяпер гэты будынак не існуе, у саракавых гадах ён быў зруйнаваны. Ад яго засталіся толькі сьцены. Будынак згарэў. З рэканструкцыяй горада адначасова былі зліквідаваны і шэраг іншых будынкаў,* а за іх *кошт была пашырана плошча Леніна. Кнігарня знаходзілася каля цяпершняга ГПТУ №66. Фотаздымка кнігарні я не сустракаў».*

Пра першыя дні кнігарні жменьку фактаў даносіць і апублікаваная дасьледчыцай Дзіянай Чаркасавай паштоўка самой Канстанцыі Буйло:

*«У Вільню, у «Нашу ніву». Паважаныя і дарагія Дзядзькі! Пішу тры словы пісулькай. Ад некалькіх днёў кнігарня мая адчынена — рух ёсьць крыху. Самапачуцьцё добрае. Што чутно? Пішыце, хто можа і хоча — зрабіце мне прыемнасьць. Усім, ад першага да апошняга, пасылаю шмат сардэчнасьцяў. Як ідзе з тэатрам? Ці наладзіцца што-кольвек? Карткі дз. Бядулі ды дз. Ластоўскага атрымала — за шчыры паклон дзякую, але за няверу ў мае словы «лаіці» трэба. Аставайцеся здаровенькі — няхай Вас усіх гадуе Бог, а ў лямпаццы-памяці аба мне — хай не забракне алівы.*

*Пасылаю вам паклоны. Ваша К. Буйло.»*

Гэтая знаходка вельмі важная. Гэта жывы голас часу. Датуецца паштоўка першым лістападам 1914 году. У Вільню прыйшла чацьвёртага. Згаданыя даты даюць падставу сказаць, што кнігарня ў Полацку была адчынена ў канцы кастрычніка 1914 г. Зь іншых крыніц — зь лістоў К. Буйло да розных асоб мы даведаемся, хто зь вядомых беларускіх дзеячаў наведаваў Полацак, полацкую кнігарню, хто дапамагаў ёй ладзіць працу. Адным зь іх быў Аркадзь Смоліч. Зь ліста К., Буйло да Аляксандры Смоліч: *«Я ведала Вашага мужа, калі ён быў яшчэ студэнтам. Ён нават пісаў мне некалькі разоў як старэйшы таварыш, папраўляючы маю ў беларускай кнігарні працу ў Полацку, накіроўваючы працу сярод моладзі — навогул асьветную на рэвалюцыйны лад. Пісаў мне тады і Душэўскі, яго сябра, таксама студэнт...»* Працай полацкай кнігарні цікавіліся. Браніслаў Эпімах — Шыпіла, Вацлаў Ластоўскі, Янка Купала і Паўліна Мядзёлка. («Працуючы загадчыцай беларускай кнігарні ў Полацку, я зноў спаткалася з Купалам». З успамінаў К.Буйлы. Такі ён быў, Мн., 1975, с. 61). Кожны зь іх, наведваючы Полацак, не мінаў вядома, і гэтае агніска беларускай культуры. Дый як-жа яго было абмінуць! Там-жа рупілася іхняя каляжанка! Там кожны дзень адбываліся сустрэчы зь беларускім

друкаваным словам. Адсюль беларускае друкаванае слова шырылася па навакольных мястэчкам, што мова іхняя такая-ж людская і панская, як і французкая або нямецкая, што на ёй можна выгаварыць самыя тонкія думкі і пачуцьці. Беларускія кніжкі, набытыя ў полацкай кнігарні, якраз і мусілі выконваць гэтую місію. На гэта і разьлічавалі заснавальнікі кнігарні. І яшчэ адно кіравала імі. Заснаваньнем беларускай кнігарні яны хацелі пазначыць: горад Полацак горад спрадвечны беларускі, а нічый іншы, адсюль пайшла Белая Русь, ішло беларускае асьветніцтва, дзяржаўнасьць, гуманістычныя ідэі. Найбольш за ўсіх клапаціўся пра полацкую кнігарню Вацлаў Ластоўскі. Яму хацелася, каб у кнігарні, сярод кніг, быў партрэт нашага першадрукара Франьцішка Скарыны. 30 травеня 1915 г. ён зьвярнуўся да слыннага мастака Язэпа Драздовіча:

*«Даражэнькі паночку....ці ня ўзяліся -б Вы нарысаваць у вялікім фармаце партрэт Скарыны....?»* Драздовіч прыняў прапанову, але намаляваў не карціну, а выляпіў бюст першадрукара і падарыў яго полацкай беларускай кнігарні.

Полацкая кнігарня праіснавала нядоўга. Апошняя згадка пра яе ў «Нашай ніве» 17 ліпеня 1915 г. і гаварылася пра яе як пра кнігарню яшчэ дзейную, якая ня толькі прадае, але і прымае падпіску на ўсе беларускія часопісы. У зьмешчанай у «Нашай ніве» абвестцы за 1915 год полацкую кнігарню ўсё яшчэ называюць новастворанай.

У сярэдзіне чэрвеня 1915 года Полацак наведаў Вацлаў Ластоўскі. Подых вайны ў горадзе адчуваўся ўсё больш і больш. Полацак наваднілі ўцекачы з Рыгі, Петраграда, Варшавы. Рэзка на ўсё падскочылі цэны. Людзям не было дзе жыць. У гэтых варунках і была згорнута полацкая беларуская кнігарня.

Цяпер Полацак мае не адну шыкоўную кнігарню. Але тая, першая, заснавая нашаніўцамі, найярчэйшая. Яна не была пабытавая, звычайная. На ёй ляжала адраджэнская місія. І яна выконвала гэтую сваю місію ў Полацку. На Полаччыне любяць кнігу. Кожны год ў жніўні ля помніка першадрукару праходзіць штогодняе Сьвята Кнігі. Хай-жа палачане ў такія дні згадваюць і пра першую беларускую кнігарню, і першую беларускую кнігарку—маладзенькую, сымпатычную, апантаную ідэяй адраджэньня аўтарку «курганнай кветкі» Канстанцыю Буйло. Яна з сваёй беларускай кнігарняй у 1914-1915 гадах у жыцьцё палачанаў удыхнула новы павеў.



*Каліграфія Паўла Семчанкі*

Уладзіслаў Іосіфавіч Галубок нарадзіўся 3 травеня (па старому стылю) 1882 г. у Менску, у сям'і чыгуначніка-слесара. Скончыў Менскае прыходзкае вучылішча. Далей прыватным чынам вучыўся музыцы і жывапісу. У 1906г.ён надрукаваў у Нашай Ніве» першае апавяданьне «На вясельле». З гэтага часу пачынаецца ягонае супрацоўніцтва як пісьменьніка з «Нашай Нівай», «Маладой Беларусьсю» й іншымі беларускімі выданьнямі.




Разам з працай на чыгунцы і вучобай Галубок браў актыўны удзел у падпольным гуртку РСДРП, які існаваў пры чугуначным вузле Менску.Улетку 1917 г. у Менску было створана «Першае таварыства беларускае драмы і камедыі», у якім некаторы час прымаў удзел і Галубок Так, першая яго п'еса, што ўбачыла сьвет са сцэны,«Пісаравы імяніны», ставілася ў 1917 г. У тым-жа годзе пастаўлена і другая яго п'еса «Апошняе спатканьне». У 1918 г. у гадавіну існаваньня «Таварыства драмы і камедыі» ставілася трэцяя п'еса «Бязьвінная кроў». У 1920 г. Галубок працаваў некаторы час загадчыкам аддзела Наркамасьветы. Старэйшаму пакаленьню Галубок вядомы ня толькі як драматург і тэатральны дзеяч, але і як мастак-пейзажыст.

Маленькія дарожныя замалёўкі і накіды потым ператвараліся ў вялікія грунтоўныя краявіды.Свае творы ён выстаўляў на II Усебеларускай мастацкай выстаўцы ў памяшканьні былой кірхі, на персанальнай выставе ў Доме пісьменьніка ў Менску і кожны год у фае тэатраў тых гарадоў, мястэчак, у якіх пачынаўся тэатральны сезон Галубка.

Сэнс і значэньне гэтых выстаў ні ў якім разе нельга пераацаніць, бо мы ведаем, як далёка пранікаў у глуш тэатр Галубка, упершыню знаёмячы народ з выяўленчым мастацтвам.

Вялікая колькасьць карцін Галубка загінула ў часе апошняй вайны, а некаторая частка іх, мабыць, сёньня знаходзіцца ў прыватных зборах.

Пачаткам заснаваньня беларускага прафэсыйнага тэатра можна лічыць 1920 г. У жніўні 1920 году было абвешчана стварэньне «Трупы беларускіх артыстаў пад загадам Галубка». З гэтай пары пачынаецца афіцыйнае існаваньне трупы Галубка, пазьней «Другой дзяржаўнай трупы пад загадам Галубка», яшчэ пазьней Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра (БДВТ) і, нарэшце, — Трэцяга беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра (БДТ-3).

Пачатак у №5(5)-9(19), 5(25)-8(28)

Прыкладна з 1917 г па 1922 г. Галубком было напісана звыш 40 п'есаў. БДТ-3 да 1936 г. стаў адным з папулярнейшых тэатраў рэспублікі.

З 1922 г. па 1928 г. тэатр вандраваў па Беларусі, у друку яго празвалі «тэатрам на колах».

У 1927-28 гг. тэатр абнаўляе рэпертаўар. У 1930 г. грамадзкасьць шырока адзначыла 10-гадовы юбілей тэатра. Урадам БССР за выдатныя заслугі Галубку, першаму ў рэспубліцы, было прысвоена ганаровае званьне народнага артыста БССР.

13 студзеня 1932 г. БДТ-3 быў пераведзены на стацыянарнае становішча са сталай базай у Гомелі. Апошнюю сваю п'есу «Рыкашэт», пастаўленую ў 1934 г., Галубок прысьвяціў сацыялістычнаму будаўніцтву ў вёсцы.

У 1935 г. у Гомелі БДТ-3 адзначае свой пятнаццаты гадавы юбілей. Урадам БССР невялікай групе артыстаў БДТ-3 было нададзена званьне заслужанага артыста БССР. Пастановай Савета Народных Камісараў БССР Галубок узнагароджаны каштоўным падарункам —аўтамашынай «М-1».

У 1937 г. Галубка не стала, ён паў ахвярай неабгрунтаваных абвінавачваньняў.

У 1957 г. Галубок рэабілітаваны.

Вось так прыкладна дазвалялася мне пісаць аб Галубку дваццаць гадоў таму назад.

Апошнія радкі гэтай біяграфічнай даведкі так моцна закамуфляваныя, што чалавеку ніяк не зразумець сэнсу слоў пэрыядычнай тэрміналогіі: «Паў ахвяраю неабгрунтаваных абвінавачваньняў» або «У 1957 г. Галубок рэабілітаваны». А прасьцей кажучы, Уладзіслава Галубка расстралялі як «ворага народу».

Яго тэатр разагналі як гняздо нацдэмаў, а ўсё тое, што нагадвала аб першым народным артысту, зьнішчалася. Такім чынам, усяго таго, пра што мы ведалі, на самой справе быццам не было, бо старонкі з гісторыі выкрэсьліваліся раз і назаўсёды.

Прайшло 110 гадоў з дня нараджэньня Уладзіслава Галубка, а наша памяць патрабуе сказаць добрыя словы ў адрас гэтага незвычайнага чалавека, які пакінуў нам цудоўную спадчыну. Ня вельмі многа засталося і з таго іканаграфічнага матэрыялу, што быў пры жыцьці Галубка, але вось перад намі ляжыць вялікае фота, у правым кутку якога, наверсе, ёсьць пячтка: «Беларускі музей імя Івана Луцкевіча». Яшчэ пры жыцьці маёй жонкі Люсі Галубок (так звалі яе ў маленстве) я даведаўся ад яе, хто на гэтым фота зьняты ў беларускім народным адзеньні. Але ці магла Люся Галубок запоміць усіх асобаў? Нам прыйшлося распытваць у Зоські Верас —Савіцкай, якая засьведчыла, што ў цэнтры сядзіць Язэп Варонка — старшыня і народны сакратар замежных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Справа ад яго сядзіць Фларыян Ждановіч, зьлева Фральскі, у цэнтры (у бекешы)Уладзіслаў Галубок. Справа ад яго стаіць артыст Міцкевіч, за ім Антон, брат Фларыяна Ждановіча. Зь левага боку сядзяць дзьве сястры Змітрака Бядулі, ніжэй сядзяць сёстры Люба і Вера Тарасік, між імі—Люся Галубок, ніжэй Варонкі—актрыса Вольга Вашкевіч. З правага боку здымка сядзіць старэйшая дачка Галубка —Багуслава. Прозьвішчы астатніх артыстаў ніхто ня здолеў назваць.

Улетку 1917 г. група беларускіх энтузіястаў адраджэнцаў на чале з Фларыянам Ждановічам, Галубком, Паўлінай Мядзёлкай Фральскім залажыла ў Менску Першае тэатральнае таварыства, якое паставіла сабе за мэту стварыць сталы Беларускі тэатр. Да часу стварэньня гэтага Таварыс-

тва беларускія пастаноўкі, спэктаклі хацяй адбываіся, аднак сталага беларускага тэатра ўсё яшчэ не было. Беларускія тэатральныя дружыны працавалі бяз пэўнае сыстэмы і кіраўніцтва, бяз сталага складу артыстаў і часта развальваліся пасьля першых пастановак.

Пачаўся-ж тэатральны рух яшчэ пры стварэньні Камітэта Менскага аддзела Беларускага таварыства помачы пацярпелым ад вайны ў1917 г.

Перш-наперш гэтае таварыства адчыніла сталоўку для ўцекачоў-беларусаў пацярпелых ад вайны. Матэрыяльную апеку сталоўкі забясьпечваў Ядзвігін Ш. Пастуpова гэтая сталоўка станавілася клубам тэатральнай і літаратуранай дзейнасьці пад назвай «Беларуская хатка», якая знаходзілася ў раёне Пярэспы.

А што быў за год, калі запрасілі Варонку сфатаграфацца з трупаю артыстаў, на чале якой стаяў Фларыян Ждановіч? Мяркуючы па выгляду Люсі Галубок, узрост якой быў 9-10 гадоў, здымак зроблены ў 1917-1918 гг. Варонка сядзіць са скрыжаванымі рукамі, а на яго пятліцы ёсьць бел-чырвона-белы сьцяжок.

Зараз, калі мы перагортваем старонкі кнігі, аб разьвіцьці беларускага тэатру (якая яшчэ не надрукавана), задаемся пытаньнем: а ці была тая рэабілітацыя народнага артыста Галубка?

Фармальна так. Ёсьць копія рашэньня Вярхоўнага суда БССР ад 29 жніўня 1957 г. №5-10. Ёсьць нават «Свидетельство о смерти I-Я №072392». Але-ж ніводнаму слову ў тым-жа «Свидетельстве» нельга верыць, бо «гр. Голубок Владислав Иосифович умер 7 марта 1942 году, причина смерти— гипертония». У радку: «Месца, дзе пахаваны» Уладыслаў Галубок стаіць—прочырк. 1937 год заменены на 1942. Ці ня дзіным здаецца тое, што прычына смерці—гіпертанія— адзначана, а месца пахаваньня ня называецца. Усё зроблена спэцыяльна, каб 1937 год ніяк не адзначаўся, каб не ўзнікалі далейшыя пытаньні. Курапаты—вось месца, дзе хутчэй за усё і знаходзіцца магіла Галубка, а год ягонай сьмерці — 1937.

Думаецца, што, нарэшце, прыйшоў час да сапраўднай рэабілітацыі Уладзіслава Галубка й яго тэатра. Прыйшла пара ўстанавіць мэмарыяльную дошку, на тым доме, дзе жыў народны артыст, назваць яго імем адну з вуліц Менска. Нашчадкі мусяць ведаць аб гэтым незвычайным чалавеку, драматургу, арытсту, мастаку Уладзіславу Галубку.

(Працяг будзе)



*Міхась Басалыга. Беларуская балада*

# З перажытага

Янка Жамойцін

*У апошні час на Бацькаўшчыне ўзьнікла нямалая цікавасьць да Саюзу Беларускай Моладзі. У часопісе «Полацак» за 5(25), 1993 год мы ўжо ўзгадвалі пра СБМ і зьмяшчалі фотаздымак Надзеі Абрамавай разам з юначкамі. (Гл. артыкул Антона Шукелойца «Скарбы Менскіх праваслаўных цэркваў». Сёньня мы працягваем гэтую тэму. Прапануем увазе чытачоў гутарку Янкі Жамойціна з Верай Катковіч.*

*Вера Катковіч, прозьвішча па мужу—Клентак, жыве цяпер у Польшчы, г. Вроцлаў. У часе II сусьветнай вайны—выдатны дзеяч нацыянальнага адраджэньня сярод моладзі. Ад часу стварэньня Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ) да канца вайны —заступніца галоўнай кіраўнічкі юначак др.Надзеі Абрамавай, кіраўнічка юначак горада Менска. У 1944-45 гг. ахвярная апякунка працоўнай групы дзяўчат у Нямеччыне. Зьняволена ў 1949 г. Перажыла жахі турэмнага сьледства й існаваньня ў «асобых исправительно-трудовых лагерах» у Савецкім Саюзе, да 1956 г.*

—Вера, як пачалася твая праца ў Саюзе Беларускай Моладзі?

— Я ўзгадоўвалася без бацькоў, бо рана паўміралі, і ў годы вайны мною апякавалася ў пэўнай ступені мая старэйшая сястра Анэля. Яна атрымала працу перакладчыцы ў гарадзкой управе гор. Менска, а мне памагла ўладзіцца на вучобу ў Менскай мэдычнай школе пры шпіталі, у якім працавала др. Надзея Абрамава. Калі вясною 1943 г. узьнікла праблема зарганізаваньня Саюзу Беларускай Моладзі, др. Надзея Абрамава зьвярнулася да мяне ўдзельнічаць у гэтым пачынаньні. Галоўным аргументам той прапановы была неабходнасьць панаваньня арганізацыі сьведамымі, адданымі беларускай справе маладымі людзьмі. Асобамі, што змогуць накіраваць працай у напрамку абуджэньня і разьвіцьця нацыянальнай сьведамасьці моладзі, культуры, патрыятычных паставаў ды зьбярагчы, у меру мачымасьці, ад выкарыстаньня яе акупантамі. Я зь сяброўкамі ў школе раней ужо цікавілася грамадзскімі справамі. Мы арганізавалі мастацкую самадзейнасьць і спадзяваліся, што СБМ дасьць шанц для разьвіцьця гэтай дзейнасьці, у чым зрэшты і не памыліліся .Арганізацыйная праца захапіла нас поўнасьцю. З хвілінай стварэньня СБМ у чэрвені 1943 года, Н.Абрамава была пазначаная галоўнай кіраўнічкай юначак. Мяне-ж яна паклікала на становішча сваёй заступніцы.

—Такім чынам, як разумею, ты ўвайшла у склад кіраўнічага штабу СБМ. Якія канкрэтна абавязкі былі дадзены табе?

—Я канцэнтравалася, галоўным чынам, над працай зь дзяцьмі. Арганізоўвала ўзгадаваўчую працу ў нацыянальным духу і народнай культуры сярод дзяцей і наймалодшых юначак. Апрача таго, мне быў даручаны нагляд над курсамі для кіраўнічак юначак у Драздах, што каля Менска, і агульнаарганізацыйная праца ў штабе СБМ.

—Якія, на тваю думку, былі адносіны нямецкіх акупацыйных уладаў да СБМ?

—З боку нямецкага Остміністэрыюм, нагляд над СБМ у Менску меў нейкі Шульц, а над юначкамі —жанчына Грозэман. Немцы, ведама, мелі сваю мэту —выкарыстань-

не моладзі, а іншае кіраўніцтва імкнулася да мэты процістаўчай. Нашым імкненьнем, як я ўжо ўзгадвала, было абуджэньне нацыянальнай сьведамасьці і патрыятычных пачуцьцяў: пачуцьця адказнасьці за сваю Бацькаўшчыну, абавязка змаганьня за яе вызваленьне. У сувязі з гэтым між нашым кіраўніцтвам і прадстаўніцтвам нямецкага боку была паўсюдна супярэчнасьць, што вельмі ўскладняла працу, а падчас і стварала небясьпечныя сытуацыі, уключна з арыштамі працаўнікоў кіраўнічага штабу і пагрозамі зьняволеньня шэфа-правадніка. Сытуацыю, у вялікай ступені лагодзіў Вільгельм Кубэ, які быў прыхільнікам нашай арганізацыі і працістаяў да іншых акупацыйных уладаў, асабліва паліцэйскіх, зь якімі часта ўдаваўся ў канфлікты.

—Ці можаш, параўнаць сытуацыю СБМ з арганізацыямі моладзі іншых акупаваных краін Украіны ці Прыбалтыкі?

— З таго што мне ведама, арганізацыя украінскай моладзі была пад наглядам акупантаў і была ў непараўнальна горшых абставінах. У Прыбалтыцы рух моладзі, хоць паўстаў раней, але быў меншы і мала што чулася пра яго.

—*Наколькі вялікай была арганізацыя* моладзі СБМ перад эвакуацыяй?

—Дакладнай статыстыкі я ня ведаю, але незалежна ад цяжкасьцяў ваенных умоваў і небясьпекі як з боку бальшавіцкага і польскага падпольля, так і самага галоўнага у тым часе акупаната-немцаў, моладзь неспадзявана энтузыястычна гарнулася да СБМ. Арганізацыя на Бацькаўшчыне дзейнічала больш спраўна і ад хвіліны яе паўстаньня 22 чэрвеня 1943 году, да часу наступленьня Чырвонай Арміі ў Беларусі, у канцы чэрвеня 1944 г, з прыблізнага падліку ў арганізацыі нашай згуртавалася каля 45 тыс. юнакоў і дзяўчат.

—На зьмену немцам прыйшлі ў Беларусь бальшавікі, і што было далей?

—Як ведама да эвакуацыі з Бацькаўшчыны ніхто нікога не прымушаў, але амаль цэлая вышэйшая і сярэдняя кіраўнічая кадра СБМ эвакуавалася.

— Як ведама, СБМ ад самага пачатку свайго існаваньня, апрача дзейнасьці на Бацькаўшчыне зарганізаваў апеку над дзяцьмі і моладзьдзю ў Нямеччыне, што *была вывезена акупантамі на прымусовую* працу і згуртавана ў працоўных лягерах. Якія твае дачыненьні былі да гэтай справы?.

—Фактычна, гэта быў цяжкі адрэзак працы кіраўніцтва нашага Саюзу, так як цяжкія ўмовы тады пачаліся. Я асабіста, згодна з кіраўнікамі штабу СБМ, апынулася пачаткова ў Мальце ў Альпах, дзе згуртавалася эвакуаваная кадра СБМ, пасьля нас перавялі ў Бэрлін—Штандаў Вэст, а адтуль я была назначаная ў Катэн. У канцы вайны я была пераведзена ў працоўны лягер пры фабрыцы Юнкерса у г. Дэссаў, што ў Саксоніі. У лягеры тым было каля 300 беларускіх дзяўчатак і каля 1.500 хлопцаў, прывезеных немцамі ў большасьці з паўночна-усходняй і усходняй Беларусі. Тут пачалася сапраўды ахвярная праца. Так як і іншыя сяброўкі, я старалася перадусім аказваць як найбольш сэрца і ласкі дзецям, заступіць ім хоць часткова маці. Падобная справа была з кіраўнікамі хлопцаў. Прыходзілася ўсяго дабівацца сілай—ваяваць за лепшае харчаваньне дзяцей, за карацейшы дзень працы, за дазвол на навуку, за лекарскую апеку, і, як табе ведама, у вялікай ступені, гэта ўдавалася. Немцы пераканаліся, што ад стаўленьня да нашых дамаганьняў залежыла якасьць і вынік працы.

(Працяг будзе)

# Лісты і вершы Уладзіміра Караткевіча

*26 лістапада Уладзіміру Караткевічу споўнілася-б 63 гады. Рана, вельмі рана пайшоў ён ад нас, пакінуўшы свае творы, свае задумы, сваіх сяброў. Нашчадкам засталіся ягоныя творы, ягоныя думкі, ягоныя лісты, у якіх столькі любві да жыцьця, да сяброў, да творчасьці. Сёньня мы працягваем друкаваць лісты Уладзіміра Караткевіча да ягонага сябра Леаніда Крыгмана. Хочацца дадаць, што гэтыя лісты Леанід Крыгман перадаў на Бацькаўшчыну, для будучага музэя Уладзіміра Караткевіча, які вельмі патрэбен нам сёньня ў гэты цяжкі і складаны час у Беларусі.*

10 декабря 57 г.

Здорово толстый, глупый, но, к счастью женатый и дочатый свинтус!

Ты чего-ж это мне на письма не отвечаешь!!??!! Твоё письмо от 6.X сего года я получил 22. X и примерно дней через 15 с потрясающей аккуратностью ответил и вот не имею понятия, дошло оно до тебя и ты молчишь, или я ухитрился послать его на старый адрес (на конверте обнаружил надпись котлозавод и вот не припомню, учёл я это обстоятельство или нет, когда посылал тебе письмо). Ну уж дудки, писать длинное письмо я тебе не стану, а то ты может быть сидишь и скалишься в своей алтае-памирской Пошехонии, что тебе по два письма пишут. И ежели ты всё-таки предыдущее письмо получил и уже отослал ответ—напиши ка мне в ответ на это письмо ещё один ответ.

Получил ли ты квартиру? Как твоя выдающаяся (в то что она выдающаяся я охотно верю, у такого батьки да чтоб была не выдающася ) дочь. Расцелуй её за меня во все вс́евозможные части еённого корпуса. Привет Музе и теще (извини, не знаю имени —отчества).

Пра' слово, перебирайтесь вы в Минск, тут куда лучше и ближе к центрам цивилизации.

А то что меня ругают —плюю я, плюй и ты. Не надо обвинять шавок, у них служба такая. И уж конечно я в угоду их вкусам запоганить свою поэзию не дам. Писать буду то, что, по моему мнению, нужно и необходимо, а не то, што соблаговолит захотеть их левая пятка.

После того письма у меня была ещё только одна новость. В Минске был закрытый ( и под девизом) конкурс на лучшую пьесу. Недавно подвели его итоги. Прислано было 73 пьесы. Первой премии не дали никому, вторую Макаёнку, третью Шамякину, четвертую —получила пьеса «Млын на Сініх Вірах» под девизом:

Стварылі вас не для жывёльнай долі.
Для доблесці і ведаў.
Людзі вы»
(Дантэ: «Пекла»)

Под каковным девизом скрывался некий зане философ велий, книголюб, из Орши. Сиречь я.

Ну, цмокаю крепко.

17 марта 1958 г.

Здорово, парень!

Мы с тобою, однако, здорово аккуратно переписываемся Ты мне хлестко отвечаешь, а я тебе и того хлеще. Ничего зато по крайней мере, не надоедаем друг-другу смертельно. Я шучу, конечно, но и извинений

Працяг. Пачатак № 9(9)—2(12), 8(18)-9(19).

нам друг у друга просить не выпадает. Сижу сейчас, брат ты мой, в своей мурье среди снегов, за окнами последние лучи сумерек, снег падает. Нудно отчаянно и хочется почему-то обонять пармские фиалки. Я правда, не знаю, что эго за штука, но, должно быть, здорово хорошая вещь. Весны, брат, хочется.

Издательские дела мои ничего себе. Во втором квартале, наконец, выйдет книга, ужо в тематическом плане об этом сказано, в плане госиздата БССР на 1958 г. Там сказана масса лестных слов, что-то насчет оригинального художественного почерка, глыбокого проникновения в древнюю историю Белорусии и т.п. Этакий поэт— палеонтолог, собиравшийся сейчас писать роман в стихах из жизни мамонтов. Пьесу мою, за кою отхватил премую, собирается ставить минский театр телестудии и бресткий театр. Это радостно.

Ты, конечно, знаешь о гнусной истории с моей травлей, поднятой «Ленінскім прызывам», местными ревнителями поэзии. Так вот, сия история получила, наконец, логическое завершение. В мою защиту выступили Пятро Глебка и Янка Казека в газете «Звязда», где раздолбали доморощенных Цицероном, три месяца выступавших против меня с яростными филиппиками в духе: «Quousque tandem abutere, Korotkevitsch paciencia nostra". Мало того, цицероны вынуждены были публично себя высечь, перпечатав в своей смрадной газетке оную статью.

Как у тебя дома, всё ли благополучно, все ли здоровы из членов семьи. Очень желаю всем вам всего-всего хорошего. Музе мой тёплый привет и наилучшие пожелания. Пиши о себе, о своей жизни, работе, успехах.

Посылаю тебе стихозу с отметками моего редактора книги. Чудеснейший парень мой редактор, славная душа. Только те стихи моего сборника зарезал ,которые я ему сам отрекомендовал как наиболее достойные такой казни. И вообще, в союзе нашем чудесные люди.

Личные мои дела дрянь. Возобновилась перписка с одной моей горькой и многострадальной старой любовью. Ездил в Киев и убедился, что старые страшные события забыты, что она меня любит, да вот, к несчастью моему, убедился, что сам не знаю, люблю её или нет. Иногда просто на свете бы не жил, так люблю, а иногда сердце как сосулька в марте, холодная, хоть и тает. Трудно это, в двадцать раз хуже, чем если бы просто она меня не любила. Не знаю, как быть. Так что с «длиннокосыми» одно горе. И вообще я идиот и порядочная дрянь.

Новостей о знакомых у меня почти нет. Юрка иногда приезжает. Он порядочно опустился и мне здорово его жаль. Жениться ему надо, Нелли Голубович на практике в Орше. Она вышла замуж и, кажется, удачно. Приезжал Мишка Раздольский , блестящим морским офицером. Ещё не женат и попрежнему хитрая бестия. Вот и все новости.

Пишу сейчас поэму из времён войны под названием «Поэма пра самотнага гуманіста», история жуткая. Мне доставляет удовольствие мучить читателей.Видимо, в моей душе есть этакие вампирские задаточки.

Ну вот и всё. Пиши, братец, и не задерживай ответа больше чем на год.

Уладзімір

(Працяг будзе)

 

~~32~~ 37

САСТАРЭЛЫ МЕСЯЦ

Затрымаць імкнуся назаўсёды
Вось такім, як зараз, вобраз твой
З дальняй песняю, з начнымі водамі,
З месяцам, што гасне над вадой.
Месяц састарэлы памірае.
Затрымаць яго, каб ён заўжды
Асвятляў твой тварык, дарагая,
І ў траве расістыя сляды!
Ведаеш, ён сумны, тонкі, белы,
Сёння я хачу, каб кожны жыў,
І шкадую месяц састарэлы,
Што ў хвіліну шчасця нам свяціў.
Зоркі тыя-ж, а ўвесь час спадаюць.
Нехта ў небе, пэўна, ўсё-ж сядзіць
І дажыўшы месяц разбівае,
Каб з кавалкаў зорак нарабіць.
Папрашу яго, каб ён пакінуў
Ў кожны міг, калі са мною ты,
Месяц ~~драхлы~~, месяц светласіні,
Што няўхільна коціцца ў кусты.

1958 г

## Састарэлы месяц

Затрымаць імкнуся назаўсёды
Вось такім, як зараз, вобраз твой
З дальняй песьняю, з начнымі водамі.
З месяцам, што гасьне над вадой.
Месяц састарэлы памірае,
Затрымаць яго,каб ён заўжды
Асвятлаў твой тварык, дарагая,
І ў траве расістыя сьляды.
Ведаеш, ён сумны, тонкі, белы,
Сёньня я хачу, каб кожны жыў,
І шкадую месяц састарэлы,
Што ў хвіліну шчасьця нам сьвяціў.
Зоркі тыя-ж, а ўвесь час спадаюць.
Нехта ў небе, пэўна, усё-ж сядзіць
І дажыўшы месяц разбівае,
Каб з асколкаў зорак нарабіць.
Папрашу яго, каб ён пакінуў
У кожны міг, калі са мною ты,
Месяц драхлы, месяц сьветла-сіні,
Што няўхільна коціцца ў кусты.

(1957 г. ?)

Друкуецца: Караткевіч Ул. Зб. Твораў. У 8 т., т.1, с.350



 

# Із агню ды ў полымя

Міхась Кавыль

## Быліца трынаццатая

Беларускі прапагандовы аддзел пры генэральным камісарыяце знаходзіўся на чацьвёртым паверсе ранейшага будынку ЦК КПБ(б). Гэта недаёка ад Беларускага Дзяржаўнага тэатру. Гэтыя будынкі і Дом Чырвонай Арміі, дзе пазьней разьмясьцілася Беларуская Цэнтральная Рада, нямецкія бомбы не зачапілі.

Прапагандовы аддзел быў арганізаваны гаўляйтэрам Кубэ для вонкавай паказухі, а ня прапаганды беларускай справы, хаця і ня шкоднай для немцаў, але ім непатрэбнай. Такою-ж самаю непатрэбшчынай былі «рэлігійная свабода», беларускае школьніцтва, культура.

Узначальваў Беларускую прапаганду геноссэ Шрэтар, плюгавы «партайгенозе» з тхарынаю душонкай. Баючыся «партызанэн» ён і дома, і на працы не расставаўся зь вялікай клыкастай «аўчаркай». Свой габінэт трымаў на замку. У пакой да беларускіх прапагандыстаў не заходзіў і да сябе нікога не запрашаў. Ня мяючы, што рабіць, клікаў да сябе Сымона Юр'явіча Краўцова, нібы кіраўніка прапагандыстаў, і, каб «убіць час» «шпрэхэн», «шпрэхэн»,«шпрэхэн». А пра што «шпрэхэн», ніхто ня пытаў. Застаўшыся бяз кіраўніка, прапагандысты таксама «шпрэхэн»,«шпрэхэн», але па-беларуску. Пазьней у беларускі хор ўмяшаўся голас расейца Валянтына Арлова, «вока» Смаленскага СД, якое драпанула із Смаленска бліжэй да нямецкай мяжы. Прапагандысты, ня маючы канкрэтнага заданьня, сядзелі за сталамі і прыдурваліся: Язэп Лабач «пісаў зацемку ў «Беларускую газэту», а на самой справе—ліст матцы і сёстрам у вёску на Случчыне. Валянтына «писала стихотворение». Мастак Сілюкоў нешта крэмзаў на лістку александрыйскай паперы, часта паглядаючы на Анэлю Катковіч, якая нешта друкавала на машынцы, альбо, адкінуўшыся на сьпінку крэсла, глядзела на надрукаванае, пільна прыглядалася, каб, ня дай Божа, не памыліцца, перакладаючы зь нямецкай на беларускую пісаніну Шрэтара. Граковіч Андрэй нічога ня крэмзаў, а седзячы недалёка ад Анэлі пускаў у столь пярсьцёнкі сьмярдзючага дыму. Анэлю Граковіч не паважаў, бо яна, «заходніца», ня любіла «усходнікаў». Не жадаючы нюхаць дым,бегла Анэля ў калідор і неўзабаве вярталася з Сымонам Юр'явічам, якога выцягнула ад Шрэтара і пажалілася на Граковіча. Сымон Юр'явіч Граковіча не чапаў, а зьвяртаўся да ўсіх: «Хлопцы, ня дымеце!. Для гэтага ёсьць прыбіральня. Ня дай Божа, нарвецца гер Шрэдар, бяды не ацярэбімся».

Такая, вось «прапаганда» Язэпу не падабалася. Ды і Граковічу, і Сілюкову таксама. Усе яны былі маладыя, энэргічныя, жадалі прынесьці нейкую карысьць Беларусі, іх трымаюць, як тых папугаяў у клетцы, плацяць грошы за прыдурства. Адзін толькі Валянтын Арлоў не наракаў на бязьдзейнасьць, бо ён хоць і «писал стихи» для адводу вачэй, але выконваў заданьне Смален-

скага СД: прыслухоўваўся, што кажуць прапагандысты пра падзеі на фроньце, пра партызанаў. А яшчэ стаў падлабызвацца да Язэпа Лабача, каб залезьці ў яго душу. Язэп не зьбіраўся бегчы ў лес, а таму ен не баяўся Валянтына. Неяк сказаў Язэпу Краўцову, каб даў яму якуюсь канкрэтную працу, бо ён «ня прыехаў у Менск прыдурвацца̃». Сымон Юр'явіч Краўцоў і сам прыдурваўся, а таму радзіў Лабачу не сьпяшацца. «Грошы атрымліваеш?»— пытаў у Язэпа і сам адказваў: «Атрымліваеш. Дык і маўчы». Але Язэп не маўчаў і працу, канкрэтную атрымаў: «езьдзіць на машыне па «таўкучках» Менску й агалошваць праз «ляўшпрэхер» паведамленьні з фронту, што друкаваліся ў «Беларускай газэце». Прачытаўшы весткі, Язэп заводзіў патэфон, і над таўкучкамі гучалі акорды Баха, Бэтховена, Шуберта. І ніводнага акорду беларускага. Савецкія кружэлкі, каб і былі, Язэп, вядомая рэч, ня мог скарыстаць, а беларускіх нацыянальных ня было. Ды ўсёж халтурная ці хаўтурная праца Язэпу падабалася, але гэтае задавальненьне аднойчы абарвалася выбухам міны, падкладзенай на Чэрвеньскім рынку пад прапагандовы будан-машыну. Міна ні Язэпа, ні шафёра не пашкодізла, бо яны, запаркаваўшы машыну, пайшлі прайсьціся па таўкучцы. Пасьля гэтага здрарэньня болей Бах, Бэтховен і Шуберт менчукоў на таўкучках не забаўлялі, бо посьпехамі на ўсходнім фроньце пахваляцца немцы не маглі, а пра няўдачы заікнуцца баяліся. І ня дзіва, што іх зацікавіла апінія простых людзей, нават тых, што таўкліся на таўкучках, як быццам-бы тая апінія дапаможа ім адбіваць атакі Чырвонай Арміі.

Аднойчы, дзесьці ў травені 1943 году, сп-р Краўцоў абвясьціў загад гера Шрэтара: «Для сацыялягічнага досьледу патрэбна апінія беларускага народу, а таму ўсе прапагандысты мабілізуюцца на мейсцы масавага збору мянчан — у цэрквы, касьцёлы, тэатры, магазыны, а ў першую чаргу — на базары, для праслухоўваньня, што кажуць людзі пра падзеі на фроньце, хто на іх думку, пераможа: мардэрца Сталін ці вызваліцель фюрэр Гітляр». Калі Сымон Юр'явіч зачытаў загад і сказаў ісьці зараз-жа яго выконваць, Язэп Лабач спытаў: «Ці я справядліва зразумеў, што слова «праслухоўваньне» азначае падслухоўваньне». Сымон Юр'явіч ня любіў крывіць душой і адказаў: «Што кіем, што палкаю—адна трасца. Праслухоўвайце, падслухоўвайце і пішыце рапарты, не баючыся пісаць праўду. Гер Шрэтар паабяцаў: «Нікога за чыстую праўду, няхай і няпрыемную, караць ня будзе». А яшчэ сказаў, што прозьвішчы тых, хто будзе выказвацца адмоўна пра немцаў, не падаваць. Так што, можаце не баяцца.

Язэп Лабач ня верыў Шрэтару, а таму ізноў спытаў: «Сымон Юр'явіч, калі гер Шрэтар такі гуманны, дык як вытлумачыць арышт гера Штэйнберга, які нядаўна прагаварыўся, што немцы вайну прайграюць, і яго прысудзілі да расстрэлу?» Краўцоў крыху падумаў, пакуль адказаў: «Штэйнберг немец, а мы— беларусы, да якіх немцы пачынаюць адносіцца на дадзеным адрэзку часу болей асьцярожна. Ды і Штэйнберга яшчэ не расстралялі. Ён папрасіўся, каб пачакалі з расстрэлам да канца вайны: калі немцы выйграюць, тады хай расстраляюць».

Пытаньняў больш ня было. Прапагандысты распаўзьліся па «таўкучках». Цэлы тыдзень бадзяліся, шукалі ветру ў полі. Язэп Лабач нікуды не хадзіў, ня прыслухоўваўся, не падслухоўваў, бо веда ў без «таўкучкаў», што немцам будзе «капут». Пра гэта ён даведаўся ад брата Віктара, які трымаў у сабачай будцы невялікі, але моц-

ны кароткахвалявы радыёапарат, і слухаў і Маскву, і Бэрлін, і Варшаву. Праўда, тады ў час акружэньня пад Харкавам, ён ня думаў, што Чырвоная Армія выстаіць ды пачне даваць здачы «фрыцам», бо-ж і яго ганяла якаясь паршывая танкетка па стэпе Украіны, а яму нечым было смаляНуць па ёй, ня было і ў кацюшаў «огурцов», маўчала і 4-я гаўбічная батарэя ў Вялікай Шабялінцы. Маўчаў і «Клім Варашылаў» у Сьвятагорскім садзе», дачакаўся, пакуль не смалянула па ім тая-ж задрыпаная танкетка. Хаця ня вельмі верыў Язэп і весткам, атрыманым ад брата, але забойства Фабіяна Акіньчыца ў сакавіку 1943 г., налёт савецкай авіяцыі на таварную станцыю ў Менску, паведамленьні «Беларускай газэты» пра сотні расстраляных і павешаных падпольшчыкаў і партызанаў усё гэта наводзіла на думку: «Капут, капут, капут».Напісаць так у рапарце Язэп не асьмельваўся, а схітрыў у такі спосаб: «На Чэрвеньскім рынку бальшыня мужчын прадказвалі перамогу немцаў, а бальшыня жанчын прадказвалі перамогу Чырвонай Арміі. На Нямізе і Камароўцы 50% усіх падслуханых казалі, што вайну выйграюць немцы, а 50% Сталін».

Напісаўшы гэты рапарт і ня маючы што рабіць, пайшоў Язэп пашукаць па Менску, схадзіць у Белпэдтэхнікум, на вугал Урыцкага і Савецкай, зірнуць на Страшны Дом.

Была субота, дзень непрацоўны, сонечны і ціхі. На Савецкай ни трамаваяў, ні аўтаў, ні людзей.Трамвайныя рэйкі паржавелі, паміж каменьняў бруку там-сям прабівалася да сонца трава. Ня гудуць тэлефонныя слупы. Некаторыя зь іх каля разрушаных дамоў павісьлі на дратах, гатовыя кожную хвіліну ўпасьці на ходнікі, альбо на крушні. Разрушаных дамоў шмат, але ня так шмат, як на Ленінскай вуліцы, дзе ўцалелых амаль што не засталося. На Савецкай-жа, і Дом Пісьменьніка, і Дом ураду, і бальшыня іншых дамоў—цэлыя. А вось, Страшны дом, беларуская Лубянка—разгрувашджана бязьлітасна: ні адой цэлай сьцяны, а награмаджэньне шэрых глыбаў з цэглы, іржавыя жылы арматуры, перакарожаныя, пагнутыя бэлькі ўмацаваньні. У сярэдзіне гэтага буралому чарнее перацятая пасярэдзіне жалезная лесьвіца. Прыпомнілася Язэпу, як яго вадзіў гэпэвушнік па гэтай лесьвіцы на чацьвёрты паверх на допыт. Замучаны голадам, ён ня мог хутка падымацца, и канваір падштурхваў яго ў плечы прыкладам. Ад лесьвіцы Язэп перавёў пагляд на вакенца, што знаходзілася ў выямцы паміж ходнікамі і сьцяною, дзе былі распалажаны камэры-адзіночкі, празваныя «амэрыканкамі». Шкло ў вакенцы было патрушчана ў парашок, уцалелі толькі краты. Жадалася Язэпу заглянуць у сваю амэрыканку, дзе прамучыўся месяцаў тры, дзе рэзаў аскепкам шкла вену на руцэ, але, што ты там убачыш, каб і пралез праз краты? Чаго добрага, можа, гэпэвушнікі хаваюцца пад тым нагруважджаньнем глыбаў? Казаў-жа Сымон Юр'явіч, каб абміналі крушні, бо там і ў дзень можна атрымаць кулю ў лоб. Язэп адыйшоў крыху ад вакенца ў бок,паглядзеў яшчэ раз на лесьвіцу, а пасьля на глыбы, дзе была раней як-бы перасыльная камера, і ўспомніў беларускузаходніцу, якая стаяла каля сьцяны і ціха плакала, уздрыгваючы. Яго вялі на допыт, але чамусьці пакінулі ў «перасылцы» пачакаць. Калі канваір адлучыўся кудысьці, Язэп наблізіўся да дзяўчыны і, крануўшы далікатна за руку, спытаў: «Чаго ты так плачаш?» Яна стаяла тварам да сьцяны, ня бачыла, як Язэп да яе наблізіўся, ад дотыку яго рукі страпянулася й адхінулася ад сьцяны, уставілася заплаканымі вачыма на Язэпа. Пазнала, бадай, па яго худым, зарос-

лым валасамі твары, па бруднай вопратцы, што гэта такі-ж, як і яна, няшчасны, не пабаялася адказаць на яго пытаньне: «Плачу, бо дурная...». Сказала і замоўкла, стала выціраць рукавом шэрага плашча вочы. Язэп ня бачыў у Менску ні на адной дзяўчыне такога агністага плашча, а яшчэ беленькі капялюшык з чырвонаю жыжкаю, на руцэ брасьлецік з каменьчыкамі-пабракушкамі. «Не мянчанка яна,—падумалася Язэпу, і ён сказаў: «Бачу, ты, прабач, ня ведаю, як цябе зваць, ня тутэйшая».

«Пан-таварыш, адгадаў: я з Крэсаў усходніх. Беларусінка, камсамолка, была ею, а пшэдвчора на забаве паслухала такіх, як сама, дурняў і ўцекла праз граніцу шукаць лепшага жыцьця. І знайшла». І яна ізноў заплакала. Дзесь загрымелі дзьверы, Язэп пасьпяшыў спытаць: «Як цябе зваць?» «Ганка. Ганка Южык». Язэп не пасьпеў спытаць, ці мае яна брата, а можа,бацьку тут, у Менску,бо яго павалаклі на допыты. Падымаючыся на чацьвёрты паверх, думаў: «Няўжо дырэктар Белпэдтэхнікуму камуніст Южык і гэтая Ганка родныя? Ён-жа, казалі хлопцы, таксама ўцёк з Заходняй Беларусі. На гэтае пытаньне Язэп ніколі адказу не знайшоў, але пазьней даведаўся, што Южыка, дырэктара Белпэдтэхнікуму арыштавалі ў 1933 годзе і расстралялі. Якая доля напаткала Ганку, Бог ведае.

Пра ўсё і пра іншае, невясёлае, думалася Язэпу, калі ён крочыў ад страшнага Дому ў Белпэдтэхнікум. Ішоў ён спакваля, ішоў, як у 1935 годзе, калі прыехаў у Менск із канцлягера, яго тады ледзь не арыштавалі на станцыі гэпэвушнікі за«нарушэньне паспартызацыі».

Ён ня меў права прыяжджаць у «рэжымны горад», а прыехаў, каб пабачыцца з каханай дзяўчынай. Гэпэвушнікам зманіў, што ня ведаў пра «рэжымнасьць» Менску, прыехаў, каб узяць спраўку ў Белпэдтэхнікуме пра навучаньне на трэйцім курсе. Гэпэвушнікі паверылі й адпусьцілі з тым, каб да вечара «зматаўся із сталіцы Беларусі». Да вечара было яшчэ далекавата, і Язэп пашкандыбаў. Спаткаць тады сваю каханку ў Белпэдтэхнікуме ён не спадзяваўся, бо яна ўжо даўно тэхнікум закончыла. Ён спадзяваўся, што спаткае тэхнікумаўскага стоража дзеда Лабанка і распытае пра сваю мару. Дзеда Лабанка Язэп спаткаў, але пра сваю каханку нічога не даведаўся. а ведаючы, што за ім ідзе «хвосьцік», зайшоў у канцылярыю і ўзяў спраўку. А чаго Язэп ішоў у Белпэдтэнукум ажно праз сем гадоў, ён і сам ня ведаў. Цягнула яго туды нейкая сіла ў выглядзе зграбнай белатварай з блакітнымі вачанямі, залацістымі косамі на плячах і плячуках дзяўчыны, пра якую ён часта напяваў:

Студенточка, вечерняя заря.
Студенточка, я ожидал тебя.

Ніякай студэнтачкі ведаў не пабачыць , але-ж ішоў, бо цягнула, як магнітам, мінулае галоднае, але незабыўнае.

Каля жалезнай брамы, дзе калісьці чакаў Яаэп сваю мару, якая жыла на Камуністычнай у інтэрнаце, стаяў паліцай у чорнай форме з бел-чырвона-белай павязкай на рукаве. Язэпв спытаў, ці можа ён прайсьці ў Белпэдтэхнікум, на што той адказаў, крыху шапялявічы: «Ніякі гэта ня Белпэдтэхнікум,а нямецкая кантора».Слова за слова і пазнаёміліся. Паліцай назваўся Мікалаем Арочкай. Даведаўся, што Язэп Лабач са Случчыны, сказаў, што і ён случчак. Язэп даў Мікалаю свой адрас і запрасіў да сабе ў госьці. Ісьці ў Белпэдтэхнікум, дзе разьмяшчалася нейкая нямецкая кантора, Язэп ня мог, разьвітаўся з Мікалаем і павярнуў назад.

Дадому Язэп ня меў жаданай ахвоты

заходзіць, бо ведаў, што гаспадыні няма дома, ня будзе з кім перакінуцца хоць словам, а таму мінаваў Анін дом і пакрочыў да брата Віктара. Брат быў дома. З ходу Язэп і запытаў: «А чаму ты не на працы?» Віктар адказаў запытаньем :

—А ты, нічога ня ведаеш?

—А што я магу ведаць, — пытаньнем на пытаньне адкзаў Язэп і дадаў:

—Вось і прыйшоў да цябе, каб нешта даведацца.

Віктар падыйшоў да сьцяны, на якой вісела вялікая карта СССР, паглядзеў і пераставіў чырвоны маленькі сьцяг бліжэй да Менску, памаўчаўшы сказаў: «Справы, браце, дрэнь. Для немцаў вядома. Для нас таксама. Падпольшчыкі ўзарвалі нямецкае «казіно». Шмат загінула немцаў, пераважна афіцэраў, за гэта немцы будуць помсьціць. Не сягоньня, дык заўтра будуць рабіць аблавы, будуць акружаць базары, хапаць, хто падвернецца пад руку. З кухні пачуўся голас Веры: «Віктар, ідзі сюды». Віктар выйшаў і доўга не вяртаўся. Язэп, ня маючы, што рабіць падыйшоў да вакна, што было ад двара, і ўбачыў Віктара. Ён адчыняў вароты. З вуліцы праз вароты на двор пратарахцела калымага, на якой сядзелі тры мужчыны. Хаця ўжо было цёпла, але мужчыны былі апрануты ў кажухі. Язэп настаражыўся: «Ці ня лясныя гэта госьці?» Напэўна, хаваюць аўтаматы пад крысамі кажухоў. Трэба зматвацца, пакуль ня позна. Але зматвацца яму першкодзіла Вера, якую, бадай, настрапаліў Віктар, каб сказала Язэпу, што прыехалі з пасёлку Ракаў калгасьнікі, каб заўтра раненька паехаць на Чэрвеньскі рынак, тое-сёе прадаць і купіць. Язэпківаў галавою ў знак згоды, але думаў сваё: «Брэшаш ты, даражэнькая братавая». Пакуль Вера загаварвала Яэпу зубы, Віктар з прыехаўшымі нагрузілі воз прадуктамі, нажабраванымі Віктарам у дабрадзейных мянчан і прыгарадных жыхароў, «для сіротаў і ўдоў» ракаўскія «калгасьнікі» памахалі Віктару рукою і пад лямант сабакі патарахцелі на вуліцу. Віктар, як толькі вярнуўся нейкі зьбянтэжаны, адразу й адразу выпаліў: «Адправадзіў дурняў. Зьбіраліся заўтра на барахолку. Я сказаў,што заўтра можа быць аблава. Паслухалі і за папярэджаньне далі вось бурачнага «шнапсу». Садзіся, кульнём па чарцы, а Вера нешта знойдзе на закуску .Вера выйшла, хутка вярнулася з закускай у руках: белы хлеб, сала, гуркі. Паклаўшы прынесенае на стол, пайшла да дачушкі, Віктар напоўніў чаркі. Выпілі. Закусілі. Язэп падумаў што трэба «ўзяць быка за рогі», як кажуць, але не яго былі паліцэйскія функцыі, а таму спытаў абы спытаць: «А як ты затрымаўся ў Менску ?»

—Мяне ў Армію ня бралі як сына «кулака».Немцы так хутка захапілі Менск, што я не пасьпеў сабрацца з думкамі, што рабіць. Вось і застаўся.

—Шкадуеш, што ня ўцёк?

—Як табе сказаць? Ня то што мне савецкая ўлада падабалася. Каму яна падабалася? Але-ж яна была як-бы свая, тутэйшая. А немцы? Чужакі. Мардэрцы ,якіх сьвет ня бачыў.

—А ты бачыў, колькі памардавала «свая» ўлада, тутэйшая?

—Не, я ня бачыў.

—А хто замардаваў твайго бацьку і матку? Немцы?

—А хто сказаў табе, што яны замардаваны? Яны ў Казахстане.

—На курортах. Дурань, ты больш нічога.

Язэп бразнуў аб падлогу чарку, якую падсунуў яму Віктар, вылез із-за стала і пашыбаваў да дзьвярэй. Віктар сядзеў як ашпараны, ня ведаў, як быць. Нарэшце,

схапіў пляжку і стаў глытаць сьмярдзючую бурачную. Язэп выйшаў на двор і затрымаўся. Залемантаваў сабака. Ён быццам казаў: «Не гарачыся, хлопча, бо і ты ня лепшы за брата: і ў цябе яшчэ камсамольскі хвосьцік цяляпаецца». Але ня гэты «хвосьцік» затрымаў Язэпа. «Камсамольскі хвосьцік» адрэзалі яму гэпэвушнікі ў 1933 годзе. Проста Язэпу неяк шкода стала брата ды стаў заўважаць, што яго нэрвы сталі апошнімі гадамі пашальваць. Язэп вярнуўся назад. Віктар падняў ад стала голаў, ўставіўся на яго. «Прабач Віктар»,—вінавата прамовіў Язэп. Нэрвы штосьці мяне сталі падводзіць пад дурнога хату». Віктар маўчаў, сядзеў асалавелы. Язэп прысеў, узяў пляшку і добра пацягнуў праз горлышка.

—Даўно-б гэтак, —пачуўся голас Віктара, —Яна, гэтая сьмярдзючка ,вельмі добра асаджае нэрвы. Яны доўга маўчалі, толькі кадыкі спакваля хадзілі, заганялі хлеб і сала ў страўнікі. А тады Язэп запытаў:

—Я хто ў Менску з нашых знаёмых застаўся?

—Ня шмат, — адказаў Віктар,— Яраслаў Вярбіцкі, яго брат Юзік, сястра Манька. Праўда, Манька ўжо ня тут. Яна працавала ў Беларускім тэатры. Не падумай, што артысткай. Прыбіральшчыцай. І ўлопалася дурёха ў артыста-коміка Алеся Лявончыка. Той прайдзісьвет насьмяўсая зь яе і ўцёк у лес. Ну, і яна пабегла за ім. А прыгожая дзяўчына.

—Я памятаю яе маленькую. Зь Яраславам мы кацёлку качалі ў нашай вёсцы, патроны зьбіралі на вуліцы, калі адступалі палякі. Яраслаў тады параніў сабе нагу, калі разьбіваў патрон камянем. А дзе ён пра-цуе, ня ведаеш?

—Працуе ў нямецкім гаражы шоферам.

—А Юзік?

—І Юзік дзесьці там аціраецца.

Бачучы, што як кажуць, пара і чэсьць знаць, Язэп падаў Віктару руку і сказаў:

—Заходзь, калі мяне дома ня будзе. Жыву я тут недалечка: Карла Лібкнехта, 4.

—Ведаю, ведаю, У Ані Бабкевіч. Нішто бабка. Зайду, калі цябе дома ня будзе.

—На Аню рот не разяўляй: яна мае нейкага Якоба.

—Я не разяўляюся на нікога. У мяне ёсьць на каго разяўляцца.

Ужо на ганку, супакоіўшы «Жучку», Віктар спытаў: «А дзе ты працуеш, так мне і не пахваліўся?»

—Ды на Камсамольскай, у цырульні. Стрыгу «фрыцаў» і беларускіх калябарантаў. — І Язэп зарагатаў.

—Ня выскаляйся, прызнвайся, хто цябе ў контррэвалюцыйную арганізацыю завербаваў. Гэта мне так адізн знаёмы казаў.

—А можа, гэта я табе, казаў. У мяне на кожным допыце гэта пыталі.

—Не, ты мне не казаў. Я ведаў, што цябе арыштавалі: мне адна твая добрая знаёмая, студэнтачка казала.

—Хто?

—Алеська Зінькевіч.

—Алеська? Калі-небудзь я табе раскажу пра яе.

Віктар праводізў Язэпа за брамку. Ужо на вуліцы, за брамкай Язэп сказаў:

—Працую я ў арганізацыі, якая называецца «прапаганда Абтайлюк». Фарштэйн?

—Фарштэйн.

—Задаволены?

—Ня зусім, але аўвідэрзэен!

На кватэры Язэпа чакала неспадзеўка. У паштовай скрынцы ліст ад Васіля Васілеўскага

Васіль пісаў, што зьбіраецца адпрасіцца на пару дзён у Менск, хоча парадзіцца па вельмі важнай справе.Пісаў:«Заўтра «увидимся-убачымся». Але мінула і «заўтра», і

«пасьлязаўтра» ,а пра Васіля, як кажуць , ні слуху, ні духу. Падазраваў Язэп, што Васіль пайшоў усьлед за Калядой і Сасько ў партызаны. Але было адно «але»: тыя-ж пайшлі адразу, як толькі прыехалі ў Вілейку, чаму-ж Васіль зь імі не пайшоў? Неўзабаве справа высьвятлілася, хоць і ня зусім. Дайшлі весткі да Сымона Юр'явіча Краўцова, што вілейкаўскія прапагандысты зьбіраюцца ў лес. Краўцоў сказаў Лабачу: «Паедзь у Вілейку, даведайся, што ды як». І Лабач паехаў. Усе тры хлопцы былі дома. Жылі яны разам у адным невялічкім доміку. Спаткалі яны Язэпа насьцярожана. Асабліва касіў вочы Сяргей Хатулёў, самы, як кажуць, баявы хлапец-зух, які яшчэ ў палоне ў час частых спрэчак стяў гарою за Сталіна .Язэп дзівіўся, што ён першы не пабег у лес. Не падобна было,што ён цяпер зьбіраецца драпануць .Хаця, хто ведае, што ён думае, Вось-жа глядзіць з-пад ілба на Язэпа, а дастаў із шкфачыка бутэльку, запрасіў за стол. І Жыгалковіч па-сяброўску чокаецца чаркай, і Трысмакоў, а Васіля няма. Язэп не хацеў пытацца, дзе Васіль, каб не падумалі хлопцы, што ён, Язэп, прыехаў у разьведку. Ды Хатулёў неяк нечакана запытаў у Язэпа, ці бачыўся ён з Васілеўскім, які ўчора паехаў у Менск? Пачуўшы ад Язэпа: «Не, ня бачыўся». Хатулёў канстатаваў: «Я так і думаў. Загінуў, напэўна, Вася. Учора-ж партызаны ўзарвалі цягнік, які ішоў з Баранавіч на Менск.

—Я пра гэта нічога ня чуў,—сказаў Язэп. Праўда, бачыў два вагоны, якія ляжалі на баку каля чыгункі. Так што, магчыма і загінуў. У час гэтай размовы ў пакой хутка ўвайшоў, не пастукаўшы, ня спытаўшы дазволу, шустры надзьмуты,як індзюк, хлопец, апрануты ва ўсё чорнае, але не ў паліцэйскай форме. Ён не павітаўся, кіўнуў пальцам Хатулёву, і яны выйшлі ў калідор, «Хто гэта? —спытай Язэп. Адказаў Жыгалковіч: «Ды нейкі Чарненка, а хто ён да што, чорт яго ведае.» Вярнуўся заклапочаны Хатулёў, а за ім Ясько. Чарненка пайшоў. Ясько прынёс чатыры білеты на канцэрт, які давала нейкая агітгрупа ўласаўцаў у гарадзкім клюбе. Не пасьпеў Язэп агледзецца, распытаць, як ім тут паводзіцца, Хатулёў папрасіў у Язэпа прабачэньня, што яны мусяць яго пакінуць аднаго, і хлопцы сталі зьбірацца на канцэрт. Язэп ня меў ахвоты заставацца, а тым болей ісьці на канцэрт з прапанаваным Трысмаковым білетам. Разьвітаўшыся з хлопцамі, ён пасьпяшыў на станцыю, каб пасьпець на вячэрні цягнік.

Назаўтра Язэп даваў Краўцову справаздачу сваёй камандыроўкі :«Жывуць хлопцы прыпяваючы. Пры мне пайшлі на канцэрт уласаўцаў, на савецкую, цьфу, нямецкую ўладу не наракаюць.» Краўцоў, кісла ўсьміхнуўшыся, сказаў: «І прыпяваючы, пабеглі ў лес. Адзін Трысмакоў застаўся.»

(Працяг у наступным нумары)



*В.Шаранговіч*



# Беларусам Амэрыкі

Зьміцер Яўтуховіч



Пасьля маёй першай вандроўкі па Амэрыцы з маладымі дзеячамі культуры Інай Афанасьевай, Мікалаем Скорыкавым, Лявонам Пранчаком, я крыху разгубіўся. Сапраўды, беларусы палюбілі Іну Афанасьеву, за яе прыгажосць і пранікнёныя сьпевы, Мікалая Скорыкава — за мужны і тэмпераменты голас, валодаючы якім ён быў у змозе пасьпяхова выканаць і «Нёман», і «Мой родны кут», дый і майго «Даставай, Язэп, гармонік». З задавальненьнем слухалі беларусы Амэрыкі вершы Лявона Пранчака, многія зь якіх пакладзеныя мною на музыку. Вярнуўшыся з «гастроляў» на Бацькаўшчыну, кожны з нас, безумоўна, па-свойму, перацэньваў многія каштоўнасьці. Бо нам, музыкам, дадзена Богам весяліць і церабіць душу, выклікаць самыя разнастайныя пачуцьці ў людзях.

Дык сапраўды, я разгубіўся. Думаю, гэта быў пэрыяд для высьпяваньня новых ідэяў. Пасьпелі гэтыя ідэі за пару месяцаў—і ўжо вясною я меў у арсэнале (ці як кажуць у творчым партфелі) з тузін новых песьняў для дарослых і некалькі для дзяцей.

Я ніколі ня быў тэарэтыкам. Заўсёды імкнуўся да таго, каб мае творы гучалі—на радыё, тэлебачаньні, у канцэртах. І я пачаў супрацоўнічаць з новымі сьпевакамі, артыстамі. Асаблівае задавальненьне меў пасьля шматлікіх рэпэтыцыяў з дзіцячым гуртком, які з маёй лёгкай рукі атрымаў мілагучную назву «Бусьлік». Мы былі запрошаны зь «бусьлянятамі» сьпярша на Калядны, а пасьля на Вялікодны фэст, які ладзіла студыя «Тэлесябрына». Шмат песьняў спадабалася і рэжысёрам папулянай дзіцячай тэлеперадачы «Калыханка». Так, сталі вядомымі ў беларускіх дзетак песьні «Вучыць азбуку гусак», «Я вясну гукаю», «Васілёк», «Пра сабачку Чапу», «Мамачка» і іншыя. А ўзнагародай для дзяцей сталі дзьве цікавыя вандроўкі: у летнік «Зубраня», куды нас накіраваў беларускі фонд «Мы —дзецям», ды творчая паездка ў Аўстрыю і Баварыю па запрашэньню вядомага дзеяча сп. Эрыха Заўэра, які дапамагае дзецям Чарнобыля. Дзеткі выступалі вельмі пасьпяхова, слухачы сьпявалі разам зь імі, нават ня ведаючы беларускай мовы.

Таксама я пісаў музыку на вершы паэтаў эмігрантаў: Міхася Кавыля, Анатоля Бярозкі. Паэт Сяргей Панізьнік прапанаваў вершы «Спадарыня Юля» (прысьвечаны маці Данчыка), «Эмігранты зь Беларусі». Ад Віктара Шніпа атрымаў словы для «Песьні Адраджэньня» (яна друкавалася ў «Полацку», №8 (18), 1992). Разам з Лявонам Пранчаком мы напісалі новую песьню «Беларусы Амэрыкі», якую прысьвяцілі нашым землякам, якія так цёпла і шчыра прымалі нас у час нашага знаходжаньня ў Амэрыцы. Так, паступова, складалася праграма зь песьняў, прысьвечаных беларусам-эмігрантам. А даць жыцьцё гэтым кампазыцыям мне дапамагла студыя «Сябры», на чале з заслужаным артыстам Беларусі Анатолем Ярмоленкам. Кампазытар «Сяброў» Мікалай Сацура, які таксама працуе ў патрыятычным накірунку, напісаў на верш Ніла Гілевіча «Шлях да Беларусі» песьню, якая мела значны посьпех і выконвалася ў фінале 1-га песеннага фестываля «Маладзечна—93».

Зараз мне ўзгадваецца сьвята 25 Сакавіка, якое ўпершыню ў Беларусі адзнача-

лася ўсенародна. Усе чакалі прыезду беларускай эміграцыі, асабліва фан-клюб, у якім я часта бываю. Сябры фан-клюбу чакалі прыезда Данчыка. Вось тады і неспадзявана ўзьнікла ідэя запрасіць Данчыка на запіс песьні ў студыю «Сябры».Надзеі амаль не было, ягоная праграма была надзвычай насычаная, але ўдалося яго на гадзіну завезьці ў студыю. Мэлёдыю Данчык схапіў літаральна ў дарозе, паслухаўшы касэту з пробаю. «Песьня Адраджэньня» ў выкананьні Данчыка і студыі «Сябры» ўпершыню прагучала а 7-й гадзіне раніцы 25 Сакавіка на радыё. Песьня, бясспрэчна, мела посьпех, і яна натхніла ўсіх нас працаваць у такім накірунку надалей.Тым больш,што ўся творчая інтэлігенцыя чакала Першага зьезду Беларусаў Сьвету, да якога мы пасьпелі зь «Сябрамі» падрыхтаваць праграму «Эмігранты зь Беларусі». На заключным банкеце зьезду ў рэстаране «Юбілейная» пад песьні «Жураўлі лятуць», «Беларускія дзяўчаты» і многія іншыя таньчылі ўдзельнікі сьвята, сябры парлямэнту ды нават сам Станіслаў Шушкевіч. А на вечарыне клюбу «Спадчына», дзе прысутнічалі беларусы зь Кліўленда і Чыкага, славутыя пісьменьнікі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, «Сябры» паказалі амаль усе песьні з праграмы, бо імпрэза ў клюбе «Спадчына» была як-бы першым праслухоўваньнем калектыву перад ад'ездам у Амэрыку.

Міністр замежных справаў Беларусі Пётр Краўчанка прапанаваў ансамблю «Сябры» аздобіць музыкаю вечарыну ў ААН, прысьвечаную памяці Максіма Гарэцкага ,якая і адбылася 30 верасьня. Зараз, пасьля таго як канцэртнае турнэ завяршылася, аналізуючы ўсе нашыя выступленьні, можна сказаць, «Сябры» ў Амэрыцы мелі цёплы прыем і посьпех. Тры салісты—Анатоль Ярмоленка,сымпатычная 17-гадовая Алеся ды задумлівы «вусач» Валеры Разанаў выконвалі творы разнастайных напрамкаў і выказалі шырокі эмацыянальны дыяпазон пачуцьцяў. Слухачам спадабаліся песьні кампазытара «Сяброў» Міколы Сацуры, які тэмпераментна акампанаваў на клявішных. Калі ў залі гучалі ягоныя песьні «Анатоль», «Сенажаць», «Бабыль», публіка ажно падскоквала ў рытм.

Асабліва запомніліся мне у час гэтай паездкі па Амэрыцы: вечарына памяці Гарэцкага ў ААН, канцэрт і царкоўны пікнік у Беларуска-амэрыканскім цэнтры ў Саўт-Рыверы, у Мінеола-хай-скул на Лонг-айлэндзе, сьвяточны вечар і канцэрт на 35-я ўгодкі царквы сьв. Юрыя ў Чыкага.У Кліўленьдзе нас напаткала гора—неспадзявана памёр слаўны дзеяч беларускай эміграцыі Сяргей Карніловіч, які нас ветліва прыняў. У ягоную сьв. памяць мы вывучылі і засьпявалі жалобныя «эмігранцкія»песьні: «Сьпі пад курганам герояў» і «Сьпіце ўсе тыя», а таксама песьні са свайго рэпертуару «Роднаму краю», «Авэ Марыя» і «Шлях да Беларусі». Разам зь Міколам Сацурай мы сьпявалі ва ўсіх беларускіх цэрквах тэнарамі ў хоры, бо высокіх мужчынскіх галасоў на эміграцыі бракуе. І мы атрымалі ад гэтых сьпеваў вялікае натхненьне, асалоду, бо самыя мы, праваслаўныя, але на радзіме з-за пастаянных канцэртаў, ад'ездаў-прыездаў рэдка бываем у царкве.

Я ўпэўнены,што гэтая паездка была вельмі карысная для музыкаў ансамбля «Сябры». Тут у Амэрыцы, яны адкрылі для сябе, як і я ў мінулым годзе, новы сьвет, у якім знайшлося месца і вялічэзным хмарачосам з шыкоўнымі лімузінамі, і сьціплай беларускай натуры, што змагла захаваць родную мову, песьню, звычаі, беларускую царкву, і ў сэрцы сваім Беларусь. Ім, гэтым людзям і прысьвечана песьня «Беларусы Амэрыкі»

# Беларусы Амэрыкі

Словы Лявона Пранчака

Муз. Зьміцера Яўтуховіча

Павольна, велічна

Бог ніколі наш край не пакіне.
Нашу еднасьць нічым не парушыць.
У далёкай самотнай чужыне
зьберагалі вы нязгаслыя душы.

//Зьбера-//вожным расстаньні

РЭФРЭН:

Вы ўрадзіму забраную верылі, маліцца...
Вы далёкай радзіме сваe!
Беларусы Амэрыкі,
Беларусы Амэрыкі, —
Беларусь не памерла, — жыве!

Бог ніколі наш край не пакіне
Нашу еднасьць нічым не парушыць.
У далёкай самотнай чужыне
Зьбераглі Вы нязгаслыя душы.
Зьбераглі, як сьвятыню,—Айчыну,
Каб ніколі яе не пазбыцца,
Каб на родную нашу краіну
У трывожным расстаньні маліцца.

У царкву да Сьвятой Еўфрасіньні,
Я ў самоце прыходжу заўсёды.
Да Радзімы любоў не астыне,
Не астудзяць любоў маю — годы.
Бо ня маю нічога на сьвеце
Даражэй, чым бацькоўскія гоні.
Беларусь мая—зорка ў сусьвеце.
Што ніколі ня згасньне ў сутоньні.

Прыпеў:
Вы ў Радзіму забраную верылі.
Вы далёкай Радзіме—свае!
Беларусы Амэрыкі,
Беларусы Амэрыкі,
Беларусь не памерла,
Жыве!



*Група «Сябры», 1983 г.*

# Гуманітарная дапамога Беларусі

Сьвятлана Белая

Сьвятар Пол Мур прыляцеў у Кліўленд з Вашынгтону толькі на пару гадзінаў. Пэўна, ён шкадаваў, што ня мог крышку болей затрымацца ў беларускай калёніі Кліўленда, бліжэй пазнаёміцца зь людзьмі, але на вечар яго чакала казань у адной з Нью-Ёркскіх цэркваў. Там Пол Мур плянаваў расказаць пра беларускіх дзяцей, ахвяраў Чарнобыля, для якіх неабходна была мэдыцына. Амэрыканскі сьвятар шукаў сродкі для гуманітарнай дапамогі, прызначанай для Беларусі. У Вашынгтоне, зранку, Пол Мур таксама меў прамову аб ахвярах Чарнобыля. Пасьля ягонай пропаведзі да яго падыйшлі аммэрыканцы і прапанавалі свае паслугу ў гэгай гуманнай справе. Амэрыканцы ахвяроўвалі грошы. Полу Муру акрамя гэтага патрэбны былі людзі, якія ахвяравалі-б для сьвятой справы дапамогі хворым дзецям свой час, сваё сэрца, сваё цярпеньне. 23 травеня Пол Мур 33 раз ехаў з партыяй гуманітарнага грузу ў Беларусь. Ён вёз 1200 тон харчаваньня і больш за 100 тон мэдыкамэнтаў. Для суправаджэньня груза і разьмяркаваньня яго па вобласьцях, патрабаваліся добраахвотнікі.

—Ці мог-бы хто-небудзь з Вас, беларусаў, паехаць гэтым разам са мной у Беларусь?—запытаўся сьвятар.

—Зможам,—пагадзіліся Аляксей Міраеўскі й Янка Раковіч.

Так дзень 23 травеня 1993 году, стаў адным з памятнейшых у гэтым годзе для Аляксея Міраеўскага й Янкі Раковіча.



*У дзіцячым шпіталі г. Горадні. Справа сярод дзяцей Янка Раковіч*

Аляксей Міраеўскі ехаў на Бацькаўшчыну ўжо 3 раз. Да гэтага ён ужо пабываў і ў Менску, і ў сваіх сваякоў у Жлобіне. Для Янкі Раковіча ўсё было ўпершыню: і гасьцініца «Беларусь», дзе яны разьмясьціліся адразу па прыезду, і пільныя хлопцы ў цывільным, якія стаялі на ахове парадку, і адсутнасьць беларускай мовы ў сталіцы Беларусі, якая ня можа не зьдзівіць упершыню трапіўшага з-за мяжы беларуса. Праўда, бліжэй пазнаёміцца зь Менскам і менчукамі Янку Раковічу адразу не ўдалося. Прывезены самалётам груз трэба было везьці па шпіталях. Падзяліўшы груз на 6 частак, паведзьлі яго па вобласьцях. Так, Алесь Міраеўскі паехаў з часткай добраахвотнікаў «City hope» на Віцебшчыну, а Янка Раковіч — на Горадзеншчыну, у Горадню.

Разглядаю фотаздымкі Янкі Раковіча і Аляксея Міраеўскага, зробленыя ў час гэтай паездкі. Вялікія грузавікі з тонамі прадуктаў харчаваньня, якое прызначалася для дзіцячых садкоў, шпіталёў, сірацінцаў, дамоў прыстарэлых, інвалідаў. Здымкі з шпіталёў, якія наведалі ў часе сваёй гуманітарнай місыі. Хворыя дзеці, з вачыма дарослых, зь якім яны размаўялі, частавалі амэрыканскімі гумкамі, цукеркамі. Інваліды па слуху, якія маглі размаўляць і разумець іншых толькі вачыма... Былі на гэтых здымках і твары сваякоў, радні, сяброў, краявіды беларускай зямлі і прыгожыя беларускія цэрквы. І нават момант адведваньня мясцовага горадзенскага доктара-стаматолага, які, ня маючы мадэрнага амэрыканскага абсталяваньня, усё-такі змог вельмі добра залячыць зуб Янку Раковічу, таксама знайшоў сваё месца ў летапісу гэтай паездкі. Аднак пераважная большасьць здымкаў была зроблена ў час працы. І гэта зразумела. Часта прыходзілася працаваць з ранку да вечара.



*Янка Раковіч на прыёме ў горадзенскага доктара-стаматолага.*

Горадзенская група, у якой працаваў Янка Раковіч, займалася разьмеркаваньнем прадуктаў харчаваньня. Развозілі па шпіталях і дзіцячых арганізацыях крупы, цукар, кансэрвы, сухое малако, сумясі для малышоў. Колькасьць прадуктаў харчаваньня была каля 200 тонаў, і усё трэба было у час перадаць па назначэньню. А ўжо далей ад кіраўнікоў тых шпіталяў і арганізацыяў, куды яны здавалі груз, залежала, наколькі часу хопіць прадуктаў. Сябры «Sity hope» і беларускія групы працавалі зладжана. Праблемы, якія часам узьнікалі у час працы, мелі хутчэй за ўсё спэцыфічныя, мясцовы характар. Так, напрыклад, у Горадні адмовіліся прымаць 40 тонаў рысу, спаслаўшыся на тое, што рыс ня мае вышэйшага гатунку якасьці і яго нельга даваць хворым дзецям. Каб рэалізаваць прадукты, прывезеныя з-за акіяну вырашылі прадаваць рыс. Цікава, што пасьля некалькі дзён «горадзенскі» рыс зьявіўся у Менску, але яго прадавалі па больш высокіх цэнах. Пэўна, што продаж рысу застанецца на сумленьні горадзенскіх уладаў, якія прапанавалі гэты варыянт. Ці атрымаюць дзеці замест рысавай кашы фрукты і зяляніну, купленыя з базару за грошы, атрыманыя ад рэалізацыі гуманітарнай дапамогі, залежыць ужо не ад групы Пола Мура.

Наогул, гуманітарная дапамога, гэта толькі адзін бок вялікай праграмы, якую ажыцьцяўляе Пол Мур для Беларусі. Другая частка ягонай дзейнасьці выцякае з першай. Усё больш амэрыканцаў знаёмяцца з нашай краінай, далучаюцца да яе праблемаў, культуры, гісторыі. І пабываўшы ў Беларусі адзін раз, яны захоўваюць назаўсёды сьветлае пачуцьцё да нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. І наш асабісты боль становіцца



*Аляксей Міраеўскі. У дзіцячым шпіталі*

іхнім болем таксама. Аб гэтым сьведчыць ліст амэрыканца Эвана Аўлда, які ён напісаў у часопіс «Полацак». Гэтым лістом амэрыканца, напісаным па-беларуску, тарашкевічанкай, і хочацца закончыць гэты артыкул:

*«У месяцы чэрвені запрасіў мяне дзядзька падарожніць зь ім у Беларусь з місыяй гуманітарнай дапамогі Трэба казаць, што гэтая экскурсія шмат каштавала мне (1500 даляраў), а мне варты кожны цэнт. Я жадаў паўсім выпаўняць будаваньне сяброўства зь беларусамі. Я цяпер магу сказаць без калябаньня, што я лічу прыемным краем Беларусь. Гэта было маё першае, акрамя Канады, падарожжа за межы ЗША, і я чакаў бачыць мёртвую зямлю, але гэтага не было. Я замест гэтага пабачыў клапатлівы, але надзейны народ. Я ведаю, што значыць цярпеньне і, дзякуй, што тут павучылі мяне гэтай рэчы. Праўда, што Беларусь ёсьць небагатая краіна на тавары і матэрыял, яна мае духоўнае багацьце, што сёньня прапускаецца ў ЗША. Вы таксама маеце прыгожую прыроду, прыроду, што я бачу дома. Я раджу вам адным словам: «Трымайце яе чыстай,каб зьбегнуць нашыя памылкі». Я скончу гэтай думкай. Я знаю і разумею важнасьць культуры і гісторыі. Я маю надзею, што не забудуць беларусы іхную мову, калі яны будуюць незалежны штат. Як сказаў амэрыканскі вынаходзец Бенджамін Франклын «Народ бяз мінулага ёсьць народ бяз будучыні».*



*Эван Аўлда ў дзіцячым шпіталі ў г. Берасьці*

**AMBASSADOR SERGUEI N. MARTYNOV**
**EMBASSY OF BELARUS**

and

**THE CHICAGO ATHENAEUM**
**THE MUSEUM OF ARCHITECTURE AND DESIGN**

in collaboration with

**RUSH-PRESBYTERIAN-ST. LUKE'S MEDICAL CENTER**

Cordially Invite You To Attend
The Annual KIDSpace Program Benefit

# THE CHILDREN OF CHERNOBYL

An Exhibition of Recent Works of Art by Belarusian Children
Affected by the 1986 Chernobyl Nuclear Accident

at

**THE CHICAGO ATHENAEUM**
Gallery I
515 North State Street

Sponsored by

Austrian Airlines
The Northern Trust Company

## Exhibition

December 7, 1993 through January 10, 1994
Monday-Friday, 9 a.m. to 6 p.m.
Saturday, 9 a.m. to 2 p.m.
Sunday, closed

## Benefit Reception

Tuesday, December 7, 1993
5:00 - 7:30pm

Silent Auction
Refreshments

Music Courtesy of Denis Moffat
The Nordic Chamber Society

The Exhibition is Presented with
Children's Aid International

Tickets $15 each - Block of Ten Tickets $125
(Tickets Are Available at the Door or Call 312/280-0131)



THE CHICAGO ATHENAEUM

## THE CHILDREN OF CHERNOBYL

An Exhibition of Over 100 Recent Works of Art by Belarusian Children that Survived the Chernobyl Nuclear Accident

On April 26, 1986, the world experienced the worst environmental disaster ever recorded in human history. One of the cooling plants of the Ukraine's Nuclear Power Facility at Chernobyl experienced a melt-down, which released thousands of tons of nuclear radiation (90 times more lethal than Hiroshima) into the Eastern European atmosphere.

The catastrophe devastated villages, farms, crops, and food supplies in and around Chernobyl and the northern Ukraine and the bordering Country of Belarus.

The southern winds blew a life-threatening nuclear cloud north over the Republic of Belarus, showering down radioactive nuclides—iodine, cesium, plutonium, strontium—on the Belarusian countryside and poisoning the citizens of this new country that has since gained its independence from the former Soviet Union.

Over 70% of these invisible toxins rained down upon the Belarusian territory, creating what is called "The Chernobyl Zone"—a highly contaminated area that scientists believe will take thousands of years to recover.

In the wake of the disaster, over 800,000 Belarusian children (2.2 million total Belarusians) have been diagnosed with illnesses related to the Chernobyl accident. Forty thousand children are permanently hospitalized and critically ill with severe Leukemia, hyperplasma of the thyroid, and other serious cancer sicknesses caused by excessive radiation and nuclear poisoning.

The remaining environmental and ecological consequences of the Chernobyl accident and subsequent radiation spills into the environments of Eastern Europe have not been fully realized or totally assessed by the world's health and scientific communities.

In addition to medical rehabilitation, the Government of Belarus has launched an art program to support the morale of the afflicted children. At various hospitals in Minsk, Gomol, and in the countryside of Belarus, the seriously ill children have produced astonishing works of art in a variety of medium that give important testament to their plight and to their needs for continued survival.

Sponsored and organized by The Chicago Athenaeum and The Minister of Culture of the Government of Belarus, this exhibition of approximately 100 works of art entitled, "The Children of Chernobyl," will create an awareness about the fate of these 800,000 plus children who are destined for severe illness in various stages throughout the remainder of their lives. The exhibition is scheduled to open in Chicago in December, 1993, and continue as a traveling show in the United States and in Canada during 1994-1995.

In Chicago and in other American cities, the exhibition will serve as a fundraiser and benefit for the Children of Chernobyl with the goal of sending art and music supplies to the "Chernobyl Zone" and in continuing to provide cultural assistance to the children's hospitals in the cities of Minsk and Gomol.

# З жыцьця эміграцыі

## Сьвята ў Чыкага

Сьвятлана Анатольева

У 2 гадзіны пасьля палудня у сербскай залі, упрыгожанай бел-чырвона-белымі паветранымі шарамі і кветкамі, адбыўся сьвяточны банкет, прысьвечаны 35- годзьдздю прыходу Сьв. Юрыя. Урачыстасьць вёў Мікалай Латушкін. Ён прадставіў прысутным гасьцей, расказаў гісторыю стварэньня прыходу. Пад час банкету Пётр Каленік зачытаў тэлеграмы, якія даслалі з нагоды юбілею губэрнатар штату Ільліной і мэр горада Чыкага. М. Латушкін зачытаў прывітаньні ад Пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ААН Генадзя Бураўкіна, ад беларускіх прыходаў ЗША і Канады, брацтва «Трох віленскіх мучанікаў» з Менску, ЗБС «Бацькаўшчына». Сяргей Мартынаў, пасол Рэспублікі Беларусь у ЗША,выказаў віншаваньні арганізатарам і удзельнікам сьвята і падарыў ад пасольства мастацкі альбом іконапісі Беларусі, а таксама прыгожы мастацкі выраб. Сакратарка Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Вера Рамук зачытала вершаванае прывітаньне. Ад імя Беларускага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі вітаў чыкагцаў сябра царкоўнага прыходу сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рыверы Міхась Сенька, ад Кангрэсовага Камітэту Украіны—др. Кулес. Ён-жа ад імя дырэкцыі першага фэдэральнага банку Украіны перадаў прыходу 500 даляраў, а ад імя сваёй сям'і—250 даляраў. Сьвятар украінскай праваслаўнай царквы а. Пецям перадаў прыходу 50 даляраў, сьвятар украінскай праваслаўнай царквы сьв. Сафіі а. Вячаслаў Ільчук перадаў 100 даляраў. Выступілі таксама былы настаяцель прыходу Алег Мірановіч і інш. асобы.



*У часе сьвяточнага банкету а.Юры Латушка, сп-я Таіса Шышко*

Заканчэньне



У часе банкету: (зьлева направа) Вольга Лукашэвіч, Бэры Сарока

Пасьля прамоваў адбыўся канцэрт, які падрыхтавала група «Сябры». Разам з патрыятычнымі песьнямі гучалі жартаўлівыя, танцавальныя мэлёдыі. Сьпевы, танцы, музыка працягваліся некалькі гадзінаў. Разьвітваючыся, госьці выказвалі падзяку старшыне царкоўнай рады Аляксею Шышку і сябрам царкоўнай рады Мікалаю Латушкіну, Міхасю Каленіку за добра арганізаванае сьвята, якое засьведчыла, што Чыкагскі прыход не старэе, а маладзее. А гэта значыць, неўзабаве, мы будзем сьвяткаваць ягонае 40-годзьдзе.



У часе банкету (зьлева направа): Марыя Патапенка, Ніна Кулагіна, Лёва Баркоўскі, Марыя Кулагіна

BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA

724 WEST TANTALLON DRIVE, FORT WASHINGTON, MARYLAND 20744
PHONE: (301) - 292-2610

ELEVENTH
BELARUSIAN CONGRESS
OF AMERICA

R. Zavistovich
President
V. Cierpicki
Vice-President
C. Mierlak
Vice-President
M. Bachar
Vice-President
I. Rahalewicz-Dutko
Vice President, Cultural Affairs
M. Sienko
Secretary
L. Visotsky
Treasurer

MEMBERS:
M. Kalenik
N. Mancywoda
G. Naumczyk
V. Pielesa
I. Scors
K. Worth
C. Najdziuk
Mrs. L. Brylewski
R. Cupryk

AUDITING COMMITTEE:
N. Kosciuk
M. Paluchovich
Mrs. L. Machniuk

The President
The White House
Washington, D.C.

July 21, 1993

Dear Mr. President:

On behalf of the Belarusian Congress Committee of America, representing Americans of Belarusian descent throughout this nation, I would like to express my appreciation for the invitation you gave to Mr. Stanislav Shushkevich, Chairman of the Supreme Council of the Republic of Belarus, to visit the United States.

Since Chairman Shushkevich is a symbol of moderation, stability, and independence of Belarus, the Committee supports your initiative and believes that your meeting with the Chairman will further promote independence, freedom, and democracy and facilitate the development of free enterprise in the Republic of Belarus.

Sincerely yours,
Russell R. Zavistovich
Russell R. Zavistovich
President

Паважаны Спадар Прэзыдэнт!

Ад імя Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, арганізацыі, якая рэпрэзантуе амэрыканцаў беларускага паходжаньня ў Злучаных Штатах Амэрыкі, я хачу выказаць Вам сваю ўдзячнасьць за запросіны сп. Станіслава Шушкевіча, Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, наведаць Злучаныя Штаты.

Паколькі сп. Шушкевіч зьяўляецца сымбалем памяркоўнасьці, устойлівасьці і незалежнасьці Беларусі, Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі падтрымоўвае Вашу ініцыятыву і верыць, што Вашае спатканьне будзе й надалей садзейнічаць адраджэньню незалежнасьці, свабоды, дэмакратыі і разьвіцьцю вольнага прадпрыемніцтва ў Рэспубліцы Беларусь.

З пашанаю да Вас,
Расьціслаў Завістовіч
Расьціслаў Завістовіч
Старшыня

THE WHITE HOUSE

WASHINGTON

September 24, 1993

Mr. Russell Zavistovich
President
Belarusian Congress Committee
of America
724 West Tantallon Drive
Fort Washington, Maryland 20744

Dear Russell:

Thank you for your letter. My meeting with Chairman Shushkievich represented the first official meeting with the head of state of one of the newly independent states of the former Soviet Union. I feel that great progress was made during this meeting.

Chairman Shushkievich can be praised for the support Belarus has given to the cause of nonproliferation by joining the Non-Proliferation Treaty. At our meeting, I also stressed the strong interest of the United States in expanding economic ties with Belarus, particularly in trade and investment opportunities for American and Belarusian firms. I hope that our countries will soon conclude a bilateral investment treaty, a tax treaty, and a Peace Corps agreement.

As the United States works with reformers throughout the newly independent states of the former Soviet Union, I appreciate your continuing interest in this important issue.

Sincerely,

Bill Clinton

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі**



**Embassy of the Republic of Belarus to the United States of America**

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

---

PRESS-RELEASE

December 1,1993

November 16, 1993 the World Bank Executive Board approved a Rehabilitation Loan of $120 million for Belarus in support of the Republic efforts to transform its centrally planned economy into a market system.

The World Bank staff's introductory statement described recent economic developments and outlined the main priorities of the Government's reform program for the immediate future, a brief summary of the statement follows.

The Belarusian government's initial approach to the reform process was guided by the perception that in an environment as hostile as Belarus faces the transition to a market system could not be accomplished by replacing the government's macroeconomic management role with a simple free-market paradigm of "getting the prices right". The government proceeded instead from the notion that the creation of market-friendly institutions initially requires some intensification of government efforts in order to "get the policies right". Simply put, the government was trying to avoid a situation in which neither state interventions nor market mechanisms would be present.

With the support of the international community, Belarus has made definite progress in establishing the Treasury function, creating a new tax system and a new tax administration, restructuring the customs system, etc. The Supreme Soviet approved major pieces of the market oriented legislation: the Law on Privatization of State Property, the State program of Privatization, the Law on Privatization Vouchers, the Land Ownership Law which establishes private property on land, the Antimonopoly Law, the Law on Foreign Investments and others. Having done all this, the government drastically accelerated the pace of reform and achieved some real breakthroughs in the reform process.

Prices were liberalized for almost all consumer goods, including food stuffs, as well as for services. No more than 8 percent of consumer goods and services still have their prices regulated by the state. The private share in total agricultural production is already 34 percent. Government access to bank credit was restricted by passage of a banking law setting a limit of 5 percent of GDP on outstanding National Bank credits to the state and forbidding commercial banks to lend to the government.

To attract foreign investments to the private sector, restrictions on foreign economic activity have been greatly eased .Some 1000 joint ventures have been established whose total paid-in capital amounts to about US $280 million. The government has established a single, unified exchange rate for all official transactions. This exchange rate is determined by a newly established inter-bank auction conducted by the National Bank.

However, the reforms are taking place in a more hostile environment than was originally expected. The main problem is faster than expected movement to world levels of the prices of the energy products that Belarus imports from the FSU states. In addition to all the distortions and imbalances left behind by the collapse of the former centrally planned system, common to all FSU states, Belarus's reform program has been hindered by the heavy, constant budgetary burden of coping with the consequences of the Chernobyl disaster, whose extra costs amount annually to at least 17 percent of the total budget.

In this situation the government has concentrated most of its efforts on stabilizing the shocked economy. Difficult austerity measures were taken to reduce government's expenditures. All subsidies on food products were eliminated except for the subsidy on bread. Just between August and October, electricity tariffs were increased 150 times for agriculture, three times for households and for government agencies. These measures reduced budget expenditures by 14 percent, which enabled the government to keep the deficit within the 6 percent of GDP limit agreed upon with the IMF for 1993.

The government plans to implement its own set of measures to strengthen the operation of fiscal and monetary policy in Belarus. It is not excluded, indeed it is even required, that the independence of Belarusian monetary policy be increased at this stage of its development. The government intends to take full advantage of the fact that the de-linkage of the Belarusian ruble from the Russian ruble has already given Belarus its own *de facto* national currency for cash and non-cash transactions. Regardless of developments in Russia and other CIS members, Belarus intends to pursue its own independent stabilization policy whose primary objective will be to reduce domestic inflation.

The government of Belarus fully understands that external assistance and even foreign direct investments will not be sufficient to solve Belarus's internal economic problems. Belarus will certainly not shift the burden of systemic reforms onto someone else's shoulders. The government intends to do its own homework, but at the same time it badly needs support from the international community to enable it to cope with the unfavorable environment created by the oil price shock.

# Сьв. памяці Сяргея Карніловіча




КЛУБ „СПАДЧЫНА"
Таварыства беларускай мовы
імя ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ
220037, Мінск, вул. Уральская 16, кв. 9.
тэл. 44-83-67
Разліковы рахунак 700507 Прамбудбанка
Партызанскага аддзялення г. Мінска

«30» ________ 19__ г.

Сябры Менскага грамадзка-асьветніцкага клюбу «Спадчына» зь вялікім смуткам даведаліся аб заўчаснай і раптоўнай сьмерці палымянага патрыёта Беларусі Сяргея Карніловіча.

Яшчэ зусім нядаўна мы зь ім спатыкаліся на Першым сусьветным зьезьдзе Беларусаў ў Менску. Разам зь іншымі кліўлендцамі ён наведваў вечарыну, якую ладзіў клюб «Спадчына», быў нашым шаноўным госьцем.

Са смерцю гэтага змагара за адраджэньне Бацькаўшчыны панеслі вялікую страту ня толькі кліўлендзкі беларускі асяродак, але і патрыятычныя арганізацыі на Бацькаўшчыне. Сяргей Карніловіч быў шчырым прыхільнікам, арганізатарам дапамогі пацярпелым ад Чарнобыльскай навалы, шчырым, руплівым, спагадлівым змагаром за свой народ і любую Бацькаўшчыну. Такім ён і застаўся ў нашай памяці.

Сябры Менскага клюбу «Спадчына» выказваюць свае спачуваньні родным і сваякам Сяргея Карніловіча, а таксама ўсім беларусам Кліўленда й Амэрыкі.

Няхай пухам будзе яму зямля.

Старшыня Менскага культурна-асьветніцкага клюбу «Спадчына»

Анатоль Белы

У асобе Сяргея Карніловіча мы страцілі вялікага патрыёта, добрага, справядлівага, чэснага, шчырага, сяброўскага і спагадлівага чалавека. Сьмерць Сяргея Карніловіча вялікая страта ня толькі для яго пляменьніка Славіка і радні ў Беларусі, але перадусім для беларускай грамады ў Кліўленьдзе, як і ў іншых беларускіх асяродках. Тыя з нас, хто знаў асабіста Сяргея Карніловіча, будзем вечна трымаць у сваіх сэрцах любоў і памяць аб ім.

Ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага
Вера Рамук, сакратар.

POST MORTEM

Мы сустракаліся з ім зусім нядаўна, мінулым летам, калі ў Мінску праходзіў з'езд беларусаў свету. Тады нічога не гаварыла аб тым, што ўжо восенню Сяргея не стане...

„Памятаем аб нашай першай сустрэчы, якая адбылася ў сакавіку 1990 года. Тады група супрацоўнікаў Пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ААН рызыкнула ўстанавіць несанкцыяніраваны" кантакт з „непрагрэсіўнай эміграцыяй". Бо мала-памалу прыйшлі да разумення, што беларусы не могуць жыць паасобку, і рана ці позна некаму патрэбна працягваць руку. Упершыню ў Кліўляндзе нас сустрэлі недаверліва, насцярожана. Але мы не маглі не заўважыць шчырасць, адкрытасць і цяплыню душы чалавека, які зваўся Сяргеем Карніловічам.

Былі і другія сустрэчы. І кожны раз мы ўсё больш пераконваліся ў тым, як любіў ён сваю радзіму Беларусь, як блізка прымаў Сяргей да сэрца трывогі і клопаты людзей, як шчодра дзяліўся з імі сваёй дабратой, як цалкам аддаваў самога сябе грамадскім справам, што не заставалася часу і на асабістыя. Пра яго казалі, што жонкай яго стала ўся Беларусь.

Чысты вобраз Сяргея Карніловіча назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

У. Сакалоўскі У. Герасімовіч

Уладзімір Сакалоўскі Уладзімір Герасімовіч

Міністэрства замежных спраў Беларусі

г. Мінск, лістапад 1993 года



AT&T EasyLink Services 8209 Valley Pike P.O. Box 186 Middletown, VA 22645-0186

# INTERNATIONAL CABLEGRAM

EASYLINK MBX 9286471M001 1NOV93 08:16/09:15 EST FCMA00008751

MR JANKA CHANIENKA
3517 WEST 25TH STREET
CLEVELAND OH 44109

MBT489 01/400 50/4146
UDNX CO SUMN 115
MINSK 115/98 1 1325

MR JANKA CHANIENKA
3517 WEST 25TH STREET
CLEVELAND OHIO 44109 USA

SUMNAJA VIESTKA PRYJSLA U BIELARUS NAPIAREDADNI VOSIENSKICH DZIADOU NAS PAKINUU SIARHIEJ KARNILOVIC-SUMLENNY SPAHADLIVY PRACAVITY CALAVIEK HLYBOKA ADDANY BIELARUSSKAJ IDEI JAHONAJA ACHVIARNAJA PRACA NA KARYSC ADRADZENNIA BACKAUSCYNY ZAZNACYLASIA HETKIMI ZNACNYMI UCYNKAMI JAK STVARENNIE CENTRU POLACAK JAK ARHANIZACYJA J DASTAVA DAPAMOHI BIELARUSKIM DZIECIAM PACIARPIELYM AD CARNOBYLA I SMATLIKIMI INSYMI DOBRYMI SPRAVAMI KIRAUNICTVA SAKRATARYJAT UPRAVA BIELARUSKAHA NARODNAHA FRONTU ADRADZENNIE HLYBOKA SMUTKUJUC Z PRYCYNY SMIERCI SV P SIARHIEJA KARNILOVICA I SCYRA SPACUVAJUC RODNYM BLIZKIM SIABRAM NIABOZCYKA CHAJ BUDZIE JAMU ZIAMLA PUCHAM AD IMIA BNF ADRADZENNIE
VALANCIN HOLUBIEU VALANCINA TRYHUBOVIC
VINCUK VIACORKA

Дарагія і паважаныя Суродзічы!

Зь вялікім сумам у сэрцы я даведаўся аб раптоўнай і прадчаснай сьмерці Сьв. Памяці Сяргея Карніловіча.

Пакойны заўсёды браў чынны ўдзел ува ўсіх добрых справах, рабіў шмат не шкадуючы сваіх сіл і здароўя. Да гэтага яго натхняла бязмерная любоў да свайго народу і Бацькаўшчыны Беларусі

Вечная яму Памяць.

З пашанаю Міхась Палюховіч.



Зьміцер Яўтуховіч.

